ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 лістапада 1993г. № 44 (3714) Кошт 30 руб.

## А ПРА НАС «ЗАБЫЛІСЯ»...

***Пятрусь КАПЧЫК: «Папрасіў маладзічку, якая прымае падпіску проста ў агенцтве, падлічыць, колькі мне трэба выменяць «драўляных», каб падпісацца на тры газеты Беларусі, і пачуў у адказ: «Подписка на білоруські газеты приймається тільки на териториї Росії».***

**СТАРОНКА 3**

## «БЕЛАРУШЧЫНА — СТАРТАВАЯ ПЛЯЦОЎКА Ў СВЕТ ТВОРЧАСЦІ...»

***Сяргей ДУБАВЕЦ: «Што тычыцца свайго пакалення, дык я схіляюся да думкі, што яно выйшла з палітыкі. З палітыкі і — для мяне асабіста — з юначага духу пярэчання».***

**СТАРОНКІ 5, 12**

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРАД ВЫПРАБАВАННЕМ

***Масей СЯДНЁЎ: «Рэч ясная, літаратуру жывяць таленавітыя творы, творчая энергія не толькі саміх творцаў, але, я сказаў бы, творчая энергія нацыі...»***

**СТАРОНКА 6**

## ПЕРШЫ КРОК

***Урывак з новай аповесці Івана ШАМЯКІНА.***

**СТАРОНКІ 8—11**

## СУРМА, БАСЭТЛЯ... ЦЯПЕР — ХОРУМ...

***Яшчэ адзін беларускі народны музычны інструмент вярнуў з небыцця Уладзімір ПУЗЫНЯ.***






## ЖАЛЬБА І ПАМЯЦЬ

Жыццё пад прэсам цяжкіх успамінаў, з усведамленнем незваротнасці шматлікіх страт, з разуменнем таго, што з узростам ты ўсё болей і болей будзеш прысутнічаць на пахаваннях родных, сваякоў, сяброў — часам здаецца невыносным. Але пазбавіцца памяці — гэта амаль тое ж самае, што памерці. Чалавеку трэба хоць раз на год думаць аб вечным. Таму нашы продкі зрабілі Дзень памінання — Дзяды — адным з найгалоўнейшых святаў. Апошнія ж семдзесят з гакам гадоў улада імкнулася гэта свята знішчыць як «пережиток прошлого», выкрасліць з народнай свядомасці як тое, што ніяк не стасуецца з «советским образом жизни».

Міжволі згадваюцца словы нашага вялікага песняра Якуба Коласа:

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесці на здзек,
Каб у віры той ашукі
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

*(Працяг на стар. 2)*

## Кола дзён

***Дзякуючы памяці — чалавек стаў чалавекам. Дзякуючы гістарычнай памяці — народ становіцца народам, нацыяй. Гэта добра разумелі ідэолагі «марксісцка-ленінскай школы», якія 70 гадоў убівалі ў галовы беларусам, што гісторыя іх краю пачалася толькі ў 1917 годзе. Да таго Беларусь была «адсталай, лапатнай», а пасля рэвалюцыі, як у казцы, ператварылася ў адну з самых развітых і перадавых ускраін СССР... Дзякуй Богу, сёння мы ведаем, што гэта не так, сёння да нас вяртаецца нашая сапраўдная гісторыя, нашыя спрадвечныя святы. І, аказваецца, ёсць беларусам што прыгадаць, ёсць чым ганарыцца, ёсць каго шанаваць. Мы — вялікі народ, бо праз стагоддзі прыгнёту захавалі сябе, сваю мову, культуру. Мы адродзім іх. Бо сёння з намі нашая гісторыя, з намі — нашыя дзяды...***

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Казахстан не ўвойдзе ў «рублёвую зону» і ў бліжэйшы час увядзе сваю нацыянальную валюту. Паўнамоцтвы на гэта Нурсултану Назарбаеву прадаставіў парламент краіны на закрытым пасяджэнні. Паводле заявы прадстаўніка ўрада, Казахстан на гэты крок вымусіла Расія, якая выставіла непрымальныя ўмовы для ўваходжання дзяржавы ў «рублёвую зону». Пераглядзіць Казахстан і свае адносіны да СНД. Такім чынам, урад Беларусі страціў свайго найбольшага саюзніка ў справе ўмацавання СНД. Да слова — Расія ўжо некалькі разоў ставіла Беларусь у падобныя да казахстанскага тупіковыя становішчы. Прыгадаем хоць бы ліпеньскую ультыматыўную тэлеграму старшыні Нацбанка Расіі Герашчанкі. Кожны раз беларускі ўрад «паступаўся прынцыпамі», г. зн. суверэнітэтам сваёй дзяржавы, дзеля інтарэсаў СНД. Што ж будзе цяпер, калі ад «вялікай ідэі» засталіся рожкі ды ножкі — у саюзнікі набіваюцца толькі ваюючыя між сабою краіны?
P. S. У чацвер прыйшло паведамленне, што Савет Міністраў Беларусі ўхваліў падпісанае 7 верасня г. г. у Маскве пагадненне аб практычных мерах па стварэнні рублёвай зоны новага тыпу. Прынята рашэнне прадставіць гэтае пагадненне на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Даўно думалася: хто ж, нарэшце, возьме ды прааналізуе выступленні, выказванні, абяцанні нашага прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча і параўнае з тым, да чаго дажыліся мы сёння. І вось такая публікацыя з'явілася: артыкул намесніка старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ Сяргея Леўшунова «Читая Кебича, или Кто ведет Беларусь к катастрофе». /«Народная газета» за 4 лістапада/. Працытуем толькі высновы, зробленыя аўтарам пасля чытання Кебіча: «Несостоятельность правительства, более половины которого находилось на своих постах еще при Верховном Совете предыдущего созыва, очевидна... несмотря на все попытки Кебича и К° скрыть свою рыночную профнепригодность судьбоносными инициативами... Нам нужна не «стабилизация» нереанимируемых структур, а коренное изменение системы отношений и структуры производства».

### АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ

У канцы кастрычніка штодзённыя газеты надрукавалі неафіцыйнае паведамленне аб тым, што ва ўрадзе падпісана пастанова аб павышэнні ўдвая з 1 лістапада цэн на хлеб і малако. Але трывога грамадзян і чэргі ў крамах аказаліся дарэмнымі — цэны засталіся ранейшымі. Сваю пастанову ўрад прытрымаў да пары, да часу. Ці не да сесіі?

### АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

З 1 лістапада ўстаноўлены візавы рэжым на мяжы паміж дзяржавамі СНД і Летувой. Кошт візы — 5 долараў за ўезд і 3 за транзіт. Хто і якім чынам будзе афармляць візы грамадзянам Беларусі — пакуль невядома, бо Летува яшчэ не адкрыла ў Мінску сваё консульства. А таму, падчас кароткатэрміновага афіцыйнага візіту ў Летуву Вячаслава Кебіча дасягнута пагадненне аб адкладванні да 1 студзеня 1994 года ўвядзення візавага рэжыму для грамадзян Беларусі. Урэгуляваны таксама спрэчныя пытанні аб мяжы між дзяржавамі: Летуве перададзена чыгуначная станцыя Адутышкес з тэрыторыяй у 5,6 га, а Беларусі на 99 гадоў у арэнду здадзены санаторый «Беларусь» у Друскеніках.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

Па дадзеных Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь насельніцтва нашай краіны на 1 кастрычніка склала 10,4 мільёна чалавек і за 9 месяцаў г. г. павялічылася на 18 тысяч. У цэлым жа статыстыка трывожная: нараджальнасць памяншаецца, смяротнасць павялічваецца, а «сярэдні беларус» — старэе...

### «ПРАЛЁТ» ТЫДНЯ

На выбарах у непастаянныя члены Савета Бяспекі ААН, што адбыліся 29 кастрычніка на 48-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, Беларусь, пасля двух тураў тайнага галасавання, прайграла Чэхіі. Ужо з 1 лістапада Чэхія будзе старшынстваваць у Савеце Бяспекі.

### ІНТЭРВ'Ю ТЫДНЯ

Тыднёвік «Феміда» надрукаваў гутарку з паслом Расіі ў Рэспубліцы Беларусь Ігарам Сапрыкіным «Русский к русскому пришел» /N 44, за 1—7 лістапада/. Шчырасць у ім мяжуе з чыста маскоўскім, пшепрашам, нахабствам. Сумняваемся, што ў нейкай іншай еўрапейскай дзяржаве пасол дазволіў бы сабе падобныя выказванні пра гаспадароў. Прытым на ўзроўні «мне нравится — мне не нравится». У нас — можна. Не падабаецца паслу, што беларусы святкуюць Дзень вайсковай славы 8 верасня: «Что ж это такое, подрались в одной семье братья, кто-то кому-то покарябал лицо, так каждый год это отмечать?» Затое падабаецца «как сказал один белорус» пра ўсталяванне рынкавых адносін на Беларусі: «Сначала сделают люди, а потом белорусы». Пан пасол, які прызнаецца, што гатовы быў у пачатку кастрычніка выконваць указанні любой «ветви власти», якая пераможа ў Маскве, не бачыць на Беларусі «в ближайшей перспективе причин для радикальной смены и правительства, и той политики, которую Беларусь проводит в отношении России. Те силы, которые хотят от нас обособиться, малочисленны, хотя и крикливы». А таму Расія можа смела пракладваць праз нашую тэрыторыю яшчэ адзін нафтаправод. І яшчэ адно прызнанне: «Россия тоже заинтересована в том, чтобы не потерять Беларусь, как партнера, соседа, «окно в Европу», друга. Кроме того, эмоциональная, сентиментальная струя достаточно сильна в России, хотя, конечно, мы не возьмем на иждивение ни Беларусь, ни какую-то другую республику». Прыслухайцеся, беларусы, што пра вас гавораць, як падкрэсліваецца нават у загалоўку, двое рускіх — няўжо вам не сорамна? Няўжо вам і сапраўды хочацца «на иждивение» да «сентиментального» суседа, якому вы трэба, як «окно в Европу»? Няўжо вы горш за прыбалтаў, палякаў, люксембуржцаў, нарэшце, якія могуць жыць без «старэйшых братоў»?..

Кола дзён

# ЖАЛЬБА І ПАМЯЦЬ




(Пачатак на стар. 1)

З Днём памяці і самою Памяццю змагаліся як з ідэйным ворагам. Пяць год назад менскія Дзяды ледзь не сталі «крывавай нядзеляй» нашай нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Прынамсі, такі варыянт быў няйначай распрацаваны тагачаснымі кіраўнікамі КДБ і МУС па заказе-загадзе ЦК КПБ. Міліцыянты з дубінкамі і шчытамі, вадамёты і машыны з закратаванымі акенцамі, нeсправакаванае прымяненне «чаромхі», спробы гвалтоўна затрымаць, перахапіць сяброў толькі што створанага «Мартыралога Беларусі» і аргкамітэта Беларускага народнага фронту, калі тыя ішлі на мітынг — усё гаварыла пра тое, што наменклатура планавала праліццё крыві. І толькі розум і вытрымка людзей, што сабраліся да Маскоўскіх могілак, не далі здзейсніць гэтыя злачынныя планы. 30 кастрычніка 1988 года на менскіх Дзядах упершыню быў зноў падняты бел-чырвона-белы сцяг.

Сёлета Дзяды адзначаліся як свята дзяржаўнае. 2 лістапада зранку людзі сабраліся на рагу праспекта Скарыны і вуліцы, якая па-ранейшаму носіць імя бальшавіка Урыцкага, каля будынка сённяшняга КДБ-МУС і колішняга НКВД. На гэтым месцы, як і ў мінулым годзе, на працягу дня стаяў часовы памятны знак, тэкст на якім паведамляў, што адсюль для вязняў пачынаўся шлях у Курапаты. З кароткім словам да прысутных тут звярнуліся Васіль Быкаў і Мікола Купава.



Гэтым жа днём, але пазней на Маскоўскіх /Усходніх/ могілках, дзе пахаваны выдатны навуковец і палітычны дзеяч Міхась Ткачоў, быў адкрыты помнік на яго магіле /аўтар надмагілля — скульптар Алесь Шатэрнік/. На гэтай цырымоніі прысутнічалі тыя, хто ведаў Міхася Ткачова — асабіста альбо праз плён ягонай працы, і тыя, для каго ягонае імя ўжо амаль што легендарнае. Былі прамовы, успаміны. Зянон Пазняк гаварыў пра тое, што М. Ткачоў — найперш выдатны навуковец, палітыка не была ягонай стыхіяй. Але ён, як і іншыя інтэлігенты-адраджэнцы, добра разумеў, што сёння менавіта праз палітыку ляжыць шлях адраджэння культуры, што беларусы могуць развіваць навуку і культуру толькі на грунце незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Ён узначаліў адроджаную Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. Само адраджэнне беларускай сацыял-дэмакратыі на тых жа пазіцыях, на якіх яна калісьці ўтварылася на нашай зямлі, пазбавіла камуністаў магчымасці скарыстаць сацыял-дэмакратычны камуфляж і такім чынам пазбавіцца адказнасці за злачынствы савецкага перыяду. У той час, як у шэрагу краін былой сацыялістычнай садружнасці і краін, што ўтварыліся на руінах СССР, камуністы хуценька сталі «сацыялістамі» альбо «сацыял-дэмакратамі», а па сутнасці засталіся тымі, кім былі больш за 70 год.

Міхась Ткачоў быў найперш навукоўцам, але ён стаў палітыкам, калі таго патрабавалі інтарэсы нацыі. Ягоны жыццёвы шлях чымсьці нагадвае лёс адраджэнцаў 20-х гадоў.

Кульмінацыяй Дзядоў быў мітынг-рэквіем у Курапатах. На ім бралі слова Станіслаў Шушкевіч, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Зянон Пазняк. Для Старшыні Вярхоўнага Савета ўдзел у гэтай акцыі быў не толькі ўчынкам маральнага характару, ушанаваннем памяці бязвінных ахвяр /ад сталінскіх рэпрэсій пацярпела і ягоная сям'я/, але, як мне здаецца, і палітычнай дэманстрацыяй напярэдадні сесіі. Камуністы — у Вярхоўным Савеце і паўсюль на Беларусі — дагэтуль сцвярджаюць, што ніякіх расстрэлаў у Курапатах у перадваенны час не было, што гэта — ні больш, ні менш — «фальсіфікацыя стагоддзя» з мэтай кампраметацыі камуністычнай ідэі. Ім наўрад ці можа спадабацца тое, што Станіслаў Шушкевіч стаяў на мітынгу побач з Зянонам Пазняком і заклікаў прысутных прыкласці ўсе намаганні, каб Курапаты не паўтарыліся на нашай зямлі і нідзе ў свеце.

Ніл Гілевіч вельмі эмацыянальна распавядаў пра лёс сваёй сям'і, і гісторыя жыцця асобных людзей успрымалася як адлюстраванне агульнанацыянальнай трагедыі.

Рыгор Барадулін адзначыў, што зусім невыпадкова ў Курапатах дагэтуль няма мемарыяла, бо нашчадкі катаў і па сёння спадзяюцца, што яшчэ вернецца іх час. І тады яны скарыстаюць гэты лясны масіў «па прызначэнні». Каб распачаць усё зноў, ім трэба, каб людзі забылі, што было.

Нельга дараваць тым, хто не пакаяўся. Калі гэтага не адбудзецца, мы застанёмся заложнікамі «чырвона-карычневай» рэакцыі, гаварыў Зянон Пазняк. У 1991 годзе яны ўжо падрыхтавалі расстрэльныя спісы сваіх палітычных апанентаў, ужо размяшчаліся на заводах заказы на кайданы і наручнікі. І зусім нядаўнія падзеі ў Маскве, дзе пралілася кроў, сведчаць, што каяцца бальшавікі не збіраюцца...

На заканчэнне памінальнай акцыі ў Курапатах адбылося богаслужэнне. Жальба і памяць аб'ядналі ў гэты дзень праваслаўных, каталікоў, уніятаў. Хай бы так было заўжды. Не толькі ў Дзень памяці. Бо слушна сказана: дом, у якім разлад унутры, не вытрымае ўрагану.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Падпіска-94

# «ЛіМ» НЕ СТРАЦІЎ НАКІРУНАК...»

Зянон ПАЗНЯК, старшыня Сойма БНФ, кіраўнік парламенцкай апазіцыі:



— Я выпісваю і чытаю «ЛіМ», бо гэта адзіная ў рэспубліцы газета, якая адлюстроўвае думкі інтэлігенцыі.

«ЛіМ» вылучаецца дэмакратычным і свабодным падыходам да асвятлення інфармацыі па грамадскіх і палітычных пытаннях.

Гэта газета па сваім профілі адлюстроўвае праблемы культуры, мастацтва, нацыянальнай тэматыкі, пытанні духоўна-эстэтычныя, што ў грамадстве мае вялікае значэнне.

Да жніўня 1991 года «ЛіМ» быў арыгінальным, радыкальным выданнем адносна астатніх. Пасля 1991 года, калі развалілася КПСС і іншыя газеты пачалі набываць дэмакратычны накірунак, «ЛіМ» хоць і перастаў быць арыгінальным, аднак, што не менш важна, профільна не страціў свой стабільны накірунак — гэта адзіная газета, якая найбольш поўна і праўдзіва дае інфармацыю па культуры, мастацтве, духоўным жыцці нацыі.

Уладзімір КІН-КАМІНСКІ, акцёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы:



— «ЛіМ» чытае ўся сям'я. Ён мяне грэе. У ім знаходжу ўсё тое, што цікавіць мяне як асобу. З задавальненнем чытаю ў «ЛіМе» літаратурныя старонкі, сустракаю шмат знаёмых і невядомых імёнаў, мяне цікавіць іх творчы шлях, іх асабістыя думкі, многіх з іх я шаную як майстроў сцэны, пэндзля, майстроў пяра.

Я ўпэўнены, што ў «ЛіМе» працуе прафесійны, падрыхтаваны калектыў. Я ўвогуле лічу, што гэта адна з самых цікавых газет. Бяда наша ў тым, што шырокі чытач мала выпісвае «ЛіМ», бо ў заняпадзе ўся наша культура, наша духоўнасць. А каб людзі, асабліва маладыя, больш цікавіліся сваёй роднай літаратурай, гісторыяй, мастацтвам, тэатрам, то і ўзровень культуры павысіўся б. Ад гэтага выйгралі б усе — не было б таго агульнага абвалу бездухоўнасці, калі ў шмат каго замест вачэй свецяцца долары, марачкі, расейскія рублі.

«ЛіМ» для мяне — процівага бульварнай прэсе. Я раіў бы ўсім выбраць «ЛіМ» — самакаштоўнае, праўдзівае, класічнае выданне.

З пошты тыдня

# А ПРА НАС «ЗАБЫЛІСЯ»...

З 1 кастрычніка на Украіне пачалася падпіска на газеты і часопісы на першае паўгоддзе. Падпіска няпростая: мяркуйце самі — самая папулярная ў краіне газета «Голос Украіни», якая мае перыядычнасць 5 разоў на тыдзень, на паўгоддзе каштуе аж 60000 карбаванцаў! А самая «дарагая» газета ў каталозе перыядычных выданняў на першае паўгоддзе 1994 года — рускамоўная «Деловая Украина»: яе кошт 84000 карбаванцаў /гэтая ж газета дубліруецца і па-ўкраінску, кошт гэткі ж!/. З 1994 года гарадская газета сталіцы Украіны «Вечірний Київ» спыняе свой дубляж і будзе выдавацца толькі на дзяржаўнай, украінскай мове, а кошт таксама немаленькі: 80244 карбаванцы!.. Карацей кажучы, падпіска для многіх жыхароў краіны будзе проста не па кішэні. Праўда, «на выручку» тым, каму не па кішэні газеты і часопісы Украіны, з усходняе мяжы «прыйшлі» газеты і часопісы Расіі, якія можна выпісаць за ўкраінскія карбаванцы, а іх нямала: 42 газеты і 36 часопісаў, — менавіта такая іх колькасць змешчана ва ўкраінскім каталозе /упершыню ў гісторыі!/. Магу канстатаваць, што кошты такіх выданняў, як «Аргументы и факты» /21558 карбаванцаў на паўгоддзе/, «Недели» /27906 карбаванцаў/ ці часопісаў «Крестьянка» /15000/, «Здоровье /28680/, будзе многім па кішэні, у каго сёння месячны заробак дасягае 300000 карбаванцаў... Як бачыце, расійскія пастаўшчыкі паклапаціліся пра тое, каб «русскоязычное население» суседняй Украіны не засталося без прэсы з Расіі /на Украіне гэтаксама, як і ў Беларусі, выдаецца вялікая колькасць газет і часопісаў па-руску!/. Але ўся справа ў тым, што ў адрозненне, скажам, ад рускамоўнай прэсы Беларусі, украінская рускамоўная прэса не выступае на сваіх старонках супраць дзяржаўнасці ўкраінскай мовы, за нейкае недарэчнае «двухмоўе», альбо супраць самастойнасці і незалежнасці краіны, за ўцягненне яе ў «канфедэрацыю» з Расіяй і г.д., чым «пестрят» старонкі рускамоўнай прэсы Беларусі, асабліва «Мы и время», «ППП», «Советская Белоруссия», «Белорусская нива»...

На вялікі жаль, не знайшоў я ва ўкраінскім каталозе газет і часопісаў Беларусі, якія б можна было выпісаць за ўкраінскія карбаванцы. Няма іх і ў «чырвоным» каталозе з Расіі, але нават калі б і былі, то мне яны былі б не па кішэні: усё, што ёсць у расійскім каталозе, на Украіне можна выпісаць за... расейскія рублі! А дзе іх узяць, гэтыя рублі, калі на Украіне мы паспелі забыцца нават пра іх выгляд... І вось сёння мне патэлефанавалі з гарадскога агенцтва «Укрдрук» і паведамілі, што атрымалі «Дадатак N 1» да расейскага «чырвонага» /па колеры вокладкі!/ каталога, дзе «обнаружили»... беларускія газеты і часопісы. Ад такога паведамлення я ледзь не страціў ад хвалявання прытомнасць і борздзенька папёр туды: дзякаваць Богу, агенцтва — насупраць майго дома! Вось ён, гэты «дадатак», дзе сапраўды ёсць шэраг газет і часопісаў Рэспублікі Беларусь. А калі быць дакладным, то скажу, што спіс гэты вельмі і вельмі абмежаваны: 10 газет і 28 часопісаў. Па мовах выдання газет на беларускай мове — 6 /«Голас Радзімы», «Звязда», «Культура», «Наша слова», «Наша ніва», «Свабода»/. Што тычыцца часопісаў, то беларускамоўных у гэтым «дадатку» кот наплакаў: «Беларусь», «Полымя», «Весці Акадэміі аграрных навук». Астатнія — на мове суседняй дзяржавы альбо «гібрыдныя». Вось і ўсё. Не знайшоў я ў гэтым спісе такіх цікавых выданняў, як газеты «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопісы «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Роднае слова», «Маладосць», «Першацвет», «Бярозка», «Вясёлка», «Пралеска», «Вожык», «Родная прырода»... Вырашыў, што падпішуся на тры газеты: «Голас Радзімы», «Наша слова» і «Звязду», памяняўшы ў ашчадным банку ўкраінскія карбаванцы на расейскія рублі па курсу: 10:1 /за 1000 расейскіх рублёў патрэбна выкласці 10000 украінскіх ды яшчэ плюс 3000 на кожную тысячу «камісійны» збор. Атрымоўваецца, што ўжо не 10000, а ўсе 13000 карбаванцаў трэба выкласці ўсяго толькі за 1000 расейскіх «драўляных». Папрасіў маладзічку, якая прымае падпіску проста ў агенцтве, падлічыць, колькі ж мне трэба выменяць гэтых самых «драўляных», каб падпісацца на тры газеты Беларусі, і пачуў у адказ: «Подписка на білоруські газети приймається тільки на території Росії». Я аж вушам сваім не паверыў, а яна мне паказала гэтую «прыпіску» ў «Дадатку N 1», дзе сапраўды чорным па белым напісана: «Подписка принимается только на территории Российской Федерации». Вось так мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, засталіся на 1994 год без беларускіх выданняў! І як тут не ўспомніць мне, дэлегату Першага з'езда беларусаў свету ў ліпені г. г. у Менску, колькі слоў было сказана на «круглым стале» «Беларуская дыяспара», дзе прымаўся «Зварот да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь». У звароце пад пунктам 8. запісана: «Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя і падпісныя выданні, што выходзяць у Беларусі». Як бачым, зварот не «дайшоў» ні да парламента, ні да ўрада.

Як жа нам, украінскім беларусам, аформіць падпіску на газеты і часопісы Беларусі?

**Пятрусь КАПЧЫК**

*г. Ізяслаў*



Надзённае

# ЛІТАРАТУРА НА РАДЫЁ І ТЭЛЕБАЧАННІ

Нацыянальнае Адраджэнне, безумоўна, немагчыма без далучэння народа да лепшых набыткаў літаратуры, мастацтва. Тут вялікая роля належыць сродкам масавай інфармацыі. Будзем шчырымі, газеты і часопісы апошнім часам пачалі менш змяшчаць рэцэнзій, літаратурна-крытычных артыкулаў, водгукаў на тэатральныя і кінапрэм'еры, кніжныя навінкі. А што робіцца ў гэтым кірунку на радыё і тэлебачанні? Яны ж маюць штодня мільённую аўдыторыю, а ці атрымліваюць слухачы і гледачы своечасовую і шырокую інфармацыю аб навінках літаратурнага, наогул культурнага жыцця, ці чуюць голас пісьменнікаў, іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі?

«Літаратура, радыё і тэлебачанне» — гэтае пытанне было на парадку дня чарговага пасяджэння Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, якую адкрыў і вёў старшыня СП **В. Зуёнак.** Пра тое, што зроблена ў справе прапаганды мастацкай літаратуры, што робіцца цяпер і якія цяжкасці перад гэтым узнікаюць, паведамілі галоўны рэдактар студыі літаратурна-драматычных праграм радыё **М. Пацёмкін** і галоўны рэдактар творчага аб'яднання літаратурна-драматычных праграм **У. Мялешка.** І на радыё, і на тэлебачанні імкнуцца, каб слухачы і гледачы былі ў курсе асноўных падзей культурнага, літаратурнага жыцця. Аб'ёмы вяшчання — вялікія. Напрыклад, студыя літаратурна-драматычных праграм радыё вяшчае 700 гадзін у год, а гэта — 350 друкаваных аркушаў тэксту. Тое ж можна сказаць і пра тэлебачанне. Ды апошнім часам узніклі цяжкасці з плёнкай, апаратурай. Калі, скажам, раней на тэлебачанні ставілі па два спектаклі ў год, дык цяпер — ніводнага. Не хапае сродкаў. Ды каб жа толькі сродкаў.

Зрэшты, цяжкасцямі сёння нікога не здзівіш. Таму ў час абмеркавання выказвалася і шмат прапаноў. І пра тое, што неабходна рабіць новыя інсцэніроўкі па творах, прыцягваючы для гэтага спонсараў. І пра павелічэнне колькасці перадач пра выдатных сыноў Бацькаўшчыны. І пра выкарыстанне ў якасці выканаўцаў таленавітых акцёраў. Поруч з гэтым гучала занепакоенасць, што і на радыё, і на тэлебачанні няма высокапрафесійных вядучых. Праўда, наконт гэтага са «справаздачнага» боку прагучала, што і сярод пісьменнікаў, на жаль, мала тых, хто здатны мысліць неардынарна, хто зможа ўзрушыць з экрана сваіх слухачоў.

У ходзе абмеркавання ішла гаворка і пра перадачы для дзяцей, хоць рыхтуюцца яны, як вядома, іншымі рэдакцыямі. У прыватнасці, гаварылася пра стварэнне беларускамоўных мультфільмаў, якіх пакуль што вельмі мала.

І яшчэ адзін важны аспект размовы — захаванне фондаў радыё і тэлебачання. Як ні дзіўна, але часта — ці то з-за неахайнасці, ці то наўмысна — сціраюцца запісы радыёпастановак, спектакляў, у якіх заняты вядучыя акцёры, у тым ліку і тыя, хто пайшоў ужо з жыцця.

У гаворцы прынялі ўдзел **І. Шамякін, Л. Галубовіч, В. Адамчык, У. Юрэвіч, Р. Баравікова, А. Пісьмянкоў, К. Цвірка, Я. Каршукоў, У. Паўлаў, Г. Каржанеўская, Ал. Марціновіч, А. Камароўскі, А. Петрашкевіч, С. Законнікаў, А. Клышка.**

Сваімі меркаваннямі па закранутых праблемах падзяліўся першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь **С. Нічыпаровіч.**

На пасяджэнні Рады ўдакладнены некаторыя мерапрыемствы, якія СП праводзіць у бліжэйшы час.

Старшыня Саюза пісьменнікаў В. Зуёнак уручыў дыпломы лаўрэатам Літаратурных прэмій: імя Янкі Маўра — У. Ліпскаму, імя Аркадзя Куляшова — Ю. Свірку, імя Івана Мележа — В. Гардзею.

Уручаны таксама членскія білеты новага ўзору некаторым літаратарам.

**А. М.**

Пасвячэнні

# КРОК ДА МАСТАЦТВА



У Мінскім мастацкім ліцэі пры Беларускай акадэміі мастацтваў, які існуе ў такой якасці тры гады замест старэйшых класаў школы з мастацкім ухілам N 26, пасвяцілі ў ліцэісты чарговы ўжо І курс і ў «малышню» — І клас. Усё было традыцыйна ўрачыста: два мэтры ў чорным адзенні магістраў, свечкі ў цемры, Венера на сцэне, прамовы, медалі і падарункі малым, уручаныя рэктарам Акадэміі мастацтваў В. Шаранговічам. Ліцэістамі стала 16-гадовая моладзь /паступаць у ліцэй могуць не толькі выпускнікі мастацкіх школ, але і ўсе жадаючыя/. Найлепшыя з выпускнікоў, як папярэдне мяркуецца па агульнай сістэме адукацыі ў ліцэі, мастацкім вучылішчы і Акадэміі, будуць дапушчаны ў Альма Матэр мастацтва з пэўнай палёгкай пры ўступных іспытах. У ліцэі працуюць многія выкладчыкі акадэміі, ды і праграма, перапрацаваная і дапоўнёная, арыентуе навучэнцаў не толькі на высокі ўзровень ведаў, але і на працяг вучобы. Асвоіўшы за першы год агульныя дысцыпліны, яны астатнія два будуць паглыблена вывучаць адну з галінаў мастацтва: графіку, жывапіс, дызайн, прыкладное мастацтва.

**Н. К.**

*На здымку: рэктар Акадэміі мастацтваў В. ШАРАНГОВІЧ уручае медалі ліцэістам.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

*Гэтая гутарка пэўны час знаходзілася ў маім архіве, бо зроблена была з прыватнай мэтай — дзеля кнігі. Год таму мне здавалася, што ацэнкі і меркаванні суразмоўніка, Сяргея Дубаўца, маюць занадта фрагментарны, ці што, характар, і для газетнай публікацыі не варты — тым больш, што выказваўся ён не як крытык — кім «зваўся», і не як выдавец — кім стаў /«Наша Ніва», Вільня/. Але мінуў час, і я адчуў, што сёння не хапае іменна такога, канкрэтнага слова пра сябе, пра СВАЁ ПАКАЛЕННЕ, якое на сённяшні дзень з'яўляецца «маладым». Што цікава — апошнім часам аўтары ў друку пазбягаюць гэтай тэмы — «пакаленняў», у горшым выпадку выказваючыся пра нейкія незразумелыя «рожкі» са «старэйшымі». А выказвацца трэба. Пра што? Ды пра самае галоўнае — арыенціры, сэнс памкненняў, штодзённых высілкаў на ніве літаратуры і асветы. Нечакана для сябе адкрыў наступную акалічнасць: у 1983 г. /гл. «Вобраз—83»/ ішла палеміка паміж тагачаснымі «маладымі» /Г. Далідовіч, Я. Лецка і інш./ і «старэйшымі» /А. Адамовіч, В. Каваленка.../. І якая напружаная, вострая — і аргументаваная — палеміка!*

*І сёння нас не можа не хваляваць лёс творчай пераемнасці, перадачы рамяства далей, у будучыню — асабліва зважаючы на тыя катастрафічныя /найперш, побытавыя/ варункі, у якіх з творчага працэсу вымываецца асоба творцы, што змушаны займацца здабыццём хлеба надзённага. Сяргей Дубавец, я ведаю, перажывае сітуацыю не менш востра, чым іншыя з нас, ды, у адрозненне ад многіх, насуперак самой сітуацыі, працягвае ўпарта весці свой чын — «Наша Ніва» выходзіць і выходзіць зноў. Як можна пераканацца з гутаркі, чын у дадзеным выпадку не разыходзіцца са словамі — «рабіць сцвярджальныя рэчы». Імператыў часу?*

***Юрась ЗАЛОСКА***

# Сяргей ДУБАВЕЦ: «БЕЛАРУШЧЫНА — СТАРТАВАЯ ПЛЯЦОЎКА Ў СВЕТ ТВОРЧАСЦІ...»

*Рэтрацытата: «Нацыяналізм у падполлі і дзяржаўнае будаўніцтва — зусім розныя рэчы, як дылетанцтва і прафесіяналізм. Трэба выбіраць. Плён сёння даюць тыя, хто выбраў, а тыя, хто працуе па-ранейшаму, выклікаюць пачуццё жалю. Беларушчына цяпер — не клуб аматараў: ёй патрэбны дзяржаўныя галовы і работнікі. Можна бясконца папракаць «лянівую моладзь», але школа ўсё ж пачынаецца з настаўніка, а не з вучняў...*

*Апазіцыйнасць — інерцыя, недахоп. Апазіцыйнаму прасцей, бо ён нясе меншую адказнасць і ў сучасных умовах дбае толькі пра ўласнае рэнамэ. Прасцей рабіць у піку камусьці, чым проста рабіць... Апазіцыйнасць — ніколі не рацыянальна. Гэта* ***вымушаныя*** *ўцёкі ад нармальнае працы і ад свабоды. Для маладосці гэта можна было апраўдаць бракам досведу і сродкаў. Цяпер жа няма патрэбы станавіцца ў апазіцыю...» /«ЛіМ», 15.11.1991 г./.*



**— Цяпер, калі ты прызнаеш няслушнасць апазіцыйнасці, альбо аналізуеш мінулае па крытэрыі «рацыянальна — нерацыянальна», — ці не схіляешся да думкі, што гісторыя «Тутэйшых» — гэта, хутчэй, досвед уцёкаў ад літаратуры, час, марна патрачаны на *імітацыю літаратуры*, але не сама літаратура?**

— «Тутэйшыя» — гэта была, па сутнасці, апазіцыйная палітычная арганізацыя; арганізацыя нацыяналістычная ў здаровым сэнсе слова. Ці магла на той час узнікнуць такая арганізацыя зусім адкрыта? Трэба было нечым прыкрыцца... Глабальнасць нацыянальнае задачы вымагала адпаведнага жанру — мы выбралі жанр літаратуры. Такім чынам, пад прыкрыццём літаратуры ўзнікла арганізацыя, якая ўласна літаратурных задач і не ставіла. Нават калі і ўзгадаць «задачу» — «Каб кожны напісаў дэтэктыў», — дык гэта латышскі досвед /там, дарэчы, такім шляхам узнікла нацыянальная школа дэтэктыва/.

**— Такім чынам, дамінантай «Тутэйшых» быў палітычны аспект?**

— Безумоўна. Чым скончылі «Тутэйшыя»? Акцыяй 30 кастрычніка 1988 года, калі народ быў разагнаны міліцыяй. У маніфесце «Тутэйшых», між іншым, сказана, што літаратура — гэта Бацькаўшчына, і таму мы творым Бацькаўшчыну. Нас не можа задаволіць тая канфармісцкая літаратура, якая існуе, і дзеля таго мы пачынаем ствараць нацыянальнае жыццё, якога няма, — праз стварэнне нармальнай літаратуры.

Такое самаразуменне дало свае вынікі і ў літаратуры, і, шырэй, — у культуры. Так што я не пагаджуся з табой у тым, што «Тутэйшыя» — гэта «марна патрачаны на імітацыю літаратуры час, але не сама літаратура». «Тутэйшыя» — гэта і літаратура таксама, хоць перадусім нас цікавілі светапоглядныя падставы жыцця і творчасці. Нас, маладых, і сёння цікавіць, каб светапогляд быў нацыянальны, беларускі, і гэта мае самыя непасрэдныя дачыненні да літаратуры, бо літаратура стаіць на светапоглядзе...

**— Хіба вашыя літаратурныя папярэднікі не напрацавалі прыдатнага дзеля вас светапогляду? Вунь колькі ў нас пісьменнікаў, крытыкаў, паэтаў — цэлы літаратурны цэх?**

— Светапогляд нашых папярэднікаў ці, дакладней, «старэйшых» не быў цэльнанацыянальным. Калі й былі нацыянальныя моманты, дык яны хаваліся: час быў такі. А мы ўжо замаўлялі сваё на поўны голас. Не скажу, што з гэтага не вырасла літаратура. Банальна паўтараць імёны Анатоля Сыса, Адама Глобуса... На «Тутэйшых» завязана і культура бардаў, рокераў, мастакоў і фотамастакоў, тут цэлы клубок з'яў у культуры. Гаворачы пра нацыянальную ідэю, мы выходзілі не толькі на процікамунізм, але і на праблему урбанізацыі /тады пра яе шмат пісалі, зараз нешта перасталі/. Тое таксама звязана са светапоглядам. Так што «Тутэйшыя», калі імкнуцца акрэсліць з'яву найбольш адэкватна, — гэта светапоглядная тусоўка. Адсюль бралася і літаратура, і палітыка, і любая-кольвек каштоўная дзейнасць.

**— Выглядае, што арганічнай рысай вашых грамадскіх паводзін /на фоне канфармізму і, дарэчы, — ці не з-за таго? — непазбежнага дэкадансу савецкай беларушчыны/ была бескампраміснасць ва ўзаемаадносінах з афіцыйнымі структурамі — у тым ліку і з тымі, якія браліся прэзентаваць беларускую літаратуру і культуру?**

— ... Таму што нашая апазіцыя была апазіцыяй і кампрамісу як такому. У літаратуры старэйшага пакалення нас не задавальняла менавіта беспрынцыповая кампраміснасць. Апроч таго, мы ўсведамлялі маладзёжную фронду і адпаведна яе падкрэслівалі, не імкнучыся сталець раней часу.

Храналагічна мы ідзём услед за пакаленнем «сямідзесятнікаў», аднак мы не можам лічыць сябе ягоным працягам, паколькі яно — надломленае пакаленне /як, зрэшты, і ўсе папярэднія/. Прычым, як мне бачыцца, «сямідзесятнікі» надломлены найбольш балюча; гэта пакаленне, у якім шмат смерцяў у маладым веку. Можна нават вывесці смяротную рэтраспекцыю, пачынаючы заўчасна памерлай Т. Чабан, далей згадваюцца А. Кабаковіч, Я. Янішчыц, Р. Семашкевіч... Доўгі можа атрымацца шэраг.

Каго мы лічым сваімі папярэднікамі? Тут бы я фармуляваў больш сціпла, у форме нейкай задачы для сябе. Канец ніткі, да якой мы павінны прывязацца, каб стаць яе працягам, — гэта Ігнат Канчэўскі са сваім «Адвечным шляхам» як завяршэнне нашаніўскай пары. Усё, што было пазней, — гэта цікава, мора фактуры, багаты час, але як генеральная лінія ў развіцці нацыянальнага светапогляду апошнім быў Ігнат Канчэўскі. Думаю, культура на Беларусі не пойдзе далей Канчэўскага, не пойдзе, прынамсі, без мастацкай літаратуры... Суліма? Уладзімір Суліма /Самойла/ больш універсітэцкага складу філосаф, не столькі генератар, колькі інтэрпрэтатар. Ён не вызначае генеральную лінію, а расслайвае; ён ставіў на мэце стварэнне нацыянальнай філасофіі, дзеля чаго звярнуўся да Фіхтэ, іншых, пайшоў па прынцыпе «мы павінны паўтарыць усё, што не прайшлі». Але ж гэта не прадуктыўны шлях, бо нам нічога не трэба паўтараць: мы ўсё прайшлі, толькі гэта «ўсё» закадзіравалася ў адмысловых і, мусіць, самадастатковых формах — інакш бы культура не існавала. Закадзіравана тое і ў нас — цяперашніх, толькі не ў адкрытых, не ў выразных формах, не ў формах маніфесту ці грунтоўнай тэарэтычнай працы, — «Яно» можа існаваць нябачна, як метастазы, каб пасля раптам выявіцца ў нейкай хваробе...

Што тычыцца свайго пакалення, дык я схіляюся да думкі, што яно выйшла з палітыкі. З палітыкі і — для мяне асабіста — з юначага духу пярэчання. Мусіць, таму я і ўпліснуўся ў адпаведны жанр — крытыку. Хоць пачыналі ўсе з вершаў, нават Вінцук Вячорка... Мы былі разам і да «Тутэйшых»: першым зародкам фармаваннем, з якога пасля выйшлі «Тутэйшыя» і «Талака», была Беларуская спеўна-драматычная майстроўня». Гэта была дастаткова шматлікая арганізацыя, тусоўка на філфаку. Можна ўспомніць зіму 1980 года, Каляды, разагнаныя міліцыяй /якія пасля апісаў У. Арлоў у сваёй першай аповесці/, і інш...

Падчас нашага вылучэння з агульнага масіву на пачатку і ў сярэдзіне 80-х гадоў працавала, так бы мовіць, агульная нясучая канструкцыя, на якой усе сядзелі. Яна напрацавана за ўвесь савецкі час — гэта завядзёная сістэма адукацыі, саўдэпаўскія традыцыі, навуковы камунізм, які ўсе праходзілі ў поўным аб'ёме, і г.д. Тады ГЭТА было нармальна, канструкцыя «везла» ўсіх, і ўсе, хто не цураўся, мог спажыць ад сістэмы, — званняў, прэмій, кватэр, пуцёвак, пасад... Але мы здолелі паўстаць адносна гэтага ў апазіцыю, бо бачылі аб'ект ва ўсёй яго пачварнасці. Можна сказаць, што беларуская культура напружылася з астатніх сілаў і выпладзіла тых філфакаўцаў, журфакаўцаў, гістфакаўцаў... «Народзіны» і сімвалізуе сабой «Майстроўня».

**— Да каго з мэтраў беларушчыны вы звярталіся па дапамогу? Кажуць, вас разумеў Уладзімір Караткевіч...**

— Уладзімір Караткевіч быў дзесьці побач... Найбольш блізкім з «жывых класікаў» быў для нас Алесь Разанаў. Мы маглі з ім размаўляць, у адрозненне ад Караткевіча, якім бясконца захапляліся, але з каторым «у жывую» не маглі знайсці агульнай мовы. Хоць спробы былі...

А калі мы сустракаліся з Алесем Разанавым, ён нам казаў, што ўсё жывое складаецца са збояў. І далей прыводзіў купалаўскую думку наконт таго, што «прыгожых дум цвет адно толькі на зломе ўзрастае». Мы гэта прымалі, і пасля ўжо маглі гадзінамі размаўляць з Разанавым, стоячы на лесвіцы на філфаку... Блізкі быў Алесь Бембель. Ужо пасля ён стаў пісаць толькі «радочкі», а тады гэта быў філосаф, эстэтык з глыбокім розумам, і мы яго слухалі. Калі ў Лондане з'явілася яго кніжка пра мову, ён нам даваў яе чытаць. Гэта была асоба, набліжаная да А. Разанава...

Па тым ланцугу выходзілі на кнігі Уладзіміра Конана, доктара філасофіі, эстэтыка, чыталі і дзівіліся яго нонканфармізму на той час: ён не дазваляў сабе пачынаць кнігу з цытавання матэрыялаў чарговага з'езда КПСС. Так вымалёўвалася нейкая нітка. Пасля — асяроддзе мастакоў: Марачкін — Купава — Кулік. Як пасля высветлілася, за гэтым асяроддзем стаяў не хто іншы, як Зянон Пазняк... Пазняк не давяраў маладым, у ім сядзеў такі «правідловы» падпольшчык... А мастакі нас прымалі як роўных, бо займаліся падпольшчынай нашага ўзроўню. Да чарговага з'езда пісьменнікаў у першай палове 80-х яны перазнялі фотаспосабам прадмову Ф. Багушэвіча да «Дудкі беларускай», і мы распаўсюджвалі яе. Рабілася гэта ў вялікай канспірацыі, што цалкам нам імпанавала. Тую прадмову /у чыстым выглядзе, без аніякіх каментараў/ мы разнеслі па адрасах пісьменнікаў і паўкладвалі ў паштовыя скрынкі. Успамінаецца, што не ўдалося даставіць прадмову толькі А. Макаёнку, бо той жыў у доме, які ахоўвала міліцыя... Абразок нацыянальнай культуры: студэнты нясуць прадмову Ф. Багушэвіча беларускаму пісьменніку і не могуць яе данесці — у пад'ездзе сядзіць міліцыянер...

Асабіста для мяне каштоўным было знаёмства з Анатолем Сідарэвічам, які ў першай палове 80-х працаваў у «ЛіМе». Мяне да яго прывёў галоўны рэдактар А. Жук. Тады ў «ЛіМе», у адрозненне ад іншых беларускіх газет, «тое-сёе» праскоквала. Напрыклад, прозвішча Антона Луцкевіча, за што наўздагон выгаворвалі рэдактару і таму ж А. Сідарэвічу. /Дзеля таго, каб «правесці» гэтае прозвішча, я

*(Працяг на стар. 12)*

# «РЫФМУЮ: СОНЦА І НЯМА»

Не раз задумвалася: праца даследчыка літаратуры — гэта выбар ці прадвызначэнне? Быць поўным фаталістам не выпадае хоць бы таму, што нецікава зводзіць чалавека да ўзроўню марыянеткі, няхай нават ёю кіруе сам вышэйшы лёс. Безумоўна, ёсць сярод людзей абраныя: паэты, мастакі, кампазітары, наогул, творцы. А як жа тыя, хто ідзе па іх слядах, мо калі заглядваючы наперад, нават дапамагаючы абраным, — даследчыкі літаратуры, навошта яны? Сцвярджэнне, што работа даследчыка літаратуры **другасная** ў параўнанні з творчасцю паэта, мае сэнс. Але ці азначае гэта, што абавязкова **другаякасная**? І ўжо ніяк нельга згадзіцца з думкай, што непатрэбная. Няхай для тых, хто пачынае гэту справу, падтрымкай стануць словы пісьменніка Івана Навуменкі: «Калі вашу работу прачытае хоць адзін чалавек, то і ў такім разе яна адбылася і намаганні вашыя недарэмныя».

Хіба, напрыклад, паэту, калі ён яшчэ не развучыўся слухаць іншага, непатрэбна слова пра яго вершы? Патрэбна, як і водгулле ад яго ўласнага слова, якое не павінна знікнуць, замоўкнуць, калі яно ўжо аддадзена людзям.

*Іван Чыгрын. «Капеж». Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

Іван Пятровіч Чыгрын — у адной асобе літаратуразнаўца і паэт. Ягоная паэтычная кніжка мае назву «Капеж». Першая старонка яе — роздум пра сутнасць паэзіі, пра імкненне паэта пранікнуць у самую глыбіню жыцця.

**Вершы пішуцца промнямі сонца**
**На лістах,**
**Назва якім —**
**Пералескі,**
**Сенажаці,**
**Лясы.**
**Калі ты не здатны рассоўваць хмары**
**над зямлёй,**
**Ніякі ты не паэт.**

Згадваецца танкаўскае. Але гэта народжана **сваёй** верай, **сваім** разуменнем прыроды паэзіі, якая патрабуе надзвычайнага бачання, адчування, стараннасці і любові.

Напэўна, самым ясноўным і самым балючым матывам, што пранізвае ўвесь зборнік і ўяўляе сабою фон, на якім адбываецца лірычнае дзеянне, з'яўляецца матыў адзіноты. Гэта менавіта фон, бо аўтар не падключае яго для стварэння нейкіх яркіх вобразаў. Наадварот, ён як бы свядома пазбягае самога слова. Але яно прабіваецца то ў нагляднай карціне, ад якой вее холадам, адчужэннем /«Стаяць камяніцы — канца не відно. Дрыжаць камяніцы адна пры адной»/, то ў постаці адзінокага гараджаніна: «Вунь нехта з дачкою, там нехта з сынам, А гэты з сабакам удвух, небарак».

Дзе ж выйсце? Для лірычнага героя паэзіі Івана Чыгрына выратаванне — у любові да людзей, у імкненні аддаць свету цяпло свайго сэрца. Часам гэтае жаданне выказваецца шурпата, пэўна, ад разумення немагчымасці яго здзяйснення: «Хацеў бы шар зямны абняць, Ды рукі кароткія». Гэтая каструбаватасць лірычнага выказвання і ад непрыхаванай іроніі, накіраванай перш за ўсё на сябе.

І яшчэ адно выйсце, магчымае для кожнага чалавека, — каханне. Яно, каханне, здольна напоўніць свет сапраўднасцю, натуральнай незвычайнасцю, адчуваннем патрэбнасці і паўнацэннасці жыцця, прынесці ў кожную тваю хвіліну радасць далучанасці да зямной прыгажосці. Тады ўсе рэаліі навакольнага свету адкрываюцца тваім вачам і сэрцу абноўленымі, існаванне іх паўнакроўнае, радаснае:

**Сонца тады**
**Свеціць заўсёды ў пару.**
**Дождж ідзе — у пару.**
**Натхнёна, радасна**
**Шчабечуць птушкі.**
**Зелень — зыркая, сакавітая.**
**Снег — гарачы,**
**Зімы — казачныя.**

На фоне гэтых, здавалася б, рэальна адчутых хвілін шчасця дысанансам гучыць прызнанне: «У мяне няма каханай»... Можа, таму душа лірычнага героя адкрытая для спачування. Ён блізка ўспрымае незайздросны лёс навагодняй ёлкі, перасохлай рэчкі, высечанага лесу, соснаў у парку, што «паміраюць стоячы, адзінока і горда». Ды і сам ён нечым нагадвае гэтыя сосны. Адзінокі і горды, ён так адчайна-востра адчувае непазбежнасць заканчэння свайго зямнога шляху /ізноў жа выказанай зусім непаэтычна, «шурпата»: «скончуся з гадамі»/, што пачынаеш забывацца пра ўсеагульны характар гэтай непазбежнасці, спачуваеш менавіта яму, бо тут, у гэтым, магчыма, адзіным і апошнім жыцці ён увесь поўніўся прагным імкненнем да людзей. Хіба можа пакінуць абыякавым такая кранальная просьба:

**Я загадзя вас, людзі, папрашу:**
**Не рыйце, калі ласка, дол глыбокі.**
**Лавіць я дрэваў буду шум**
**І прагна слухаць вашы крокі.**

У сістэме лірычнай вобразнасці паэта, бадай, самым ясноўным з'яўляецца вобраз сонца. Паўтараючыся ў многіх вершах, ён становіцца скразной, нават, можна сказаць, «сувязной» дэталлю ва ўсёй паэтычнай сістэме. Менавіта дзякуючы гэтаму асобныя вершы ўступаюць у складаныя асацыятыўна-сюжэтныя сувязі з іншымі творамі. Тым самым скразная дэталь становіцца носьбітам агульнага значэння, выходзіць за межы адной

Масей СЯДНЁЎ

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРАД ВЫПРАБАВАННЕМ

Нялёгкія перабудоўчыя працэсы ў грамадстве. Яшчэ, можа, цяжэйшыя яны ў такой духоўнай сферы, як літаратура. Дый ці можна наогул гаварыць аб нейкай перабудове ў літаратуры? Літаратура ж сама ў сабе, яна аўтаномная катэгорыя і толькі ейныя глыбінныя зрухі могуць падказваць нам тэндэнцыю ейнага развіцця. Літаратуру нельга **свядома** перабудоўваць, хоць некаторыя нашыя пісьменнікі і спрабуюць перабудавацца. Але такая перабудова чыста механістычная. Нельга перабудоўваць літаратурную творчасць пры дапамозе нейкіх пастаноў ці інструкцыяў, як гэта было да нядаўняга мінулага. Беларуская літаратура, можа, як ніякая іншая, цярпела ад такой перабудовы. Рэцыдывы надта відавочныя і цяпер. Прывучаная аглядацца на пастановы, паслухмяная, нашая літаратура як бы не ведае, куды ёй цяпер ісці. Яна як бы спыніла сваё існаванне. Стаіць на раздарожжы, нібы ў чаканні нейкіх новых пастановаў, якія ёй далі б магчымасць перабудавацца. Але павароту назад у яе няма. Застаўся толькі паварот да самое сябе.

Нашая літаратура часоў сацыялістычнага рэалізму, бадай, /падкрэсліваю, **бадай**/ не існавала як паўнакроўная. Была літаратура сацыялістычнага рэалізму на беларускай мове і, трэба сказаць, з паасобнымі выдатнымі творамі ў ёй, але не было ў поўным сэнсе літаратуры нацыянальнай, заплодненай, скажам так, геніем беларуса. У новай гісторыі беларускай літаратуры заіснавала як бы дзве: нацыянальная літаратура першай чвэрці 20 ст . і літаратура сацыялістычнага рэалізму 30—80-ых гадоў. З уводам адпаведнай рапаўскай палітыкі адбыўся адсек, была парушана пераемнасць. Літаратура сацыялістычнага рэалізму не распрацоўвала нацыянальнай праблематыкі, рэагавала пераважна на з'явы палітычнага характару. Яна не была літаратурай у сабе.

Што ж нам рабіць з такой літаратурай? Замоўчваць, ігнараваць яе? Не, гэтага рабіць мы не можам. Гэта ж наша гісторыя. Яна ж бо ў сваю чаргу — сведчанне эпохі, што яе стварыла. Ейныя творцы, заслужаныя творцы, так ці інакш застаюцца ў гісторыі прыгожага пісьменства. Без іхных твораў нельга ўявіць нашу літаратуру, яна была б куцай. Асноўны ж касцяк яе — тут можна са мной і не пагаджацца — усё-ткі — сацыялістычны, у негатыўным сэнсе гэтага паняцця. У нас няма дастатковай класікі. Да літаратуры часоў сацыялістычнага рэалізму мусіць быць навуковы падыход, мы мусім гаварыць пра ейныя заганы і дасягненні, калі і дзе такія дасягненні ёсць. Больш таго, мы мусім на ёй вучыцца — вучымся ж мы і на з'явах заганных.

Перабудоўчыя часы адзначыліся ў нас і спробай — хоць і даволі нясмелай — мадэрнізаваць, **асучасніць** нашую літаратуру ў надзеі, што гэта ўзніме яе аўтарытэт, павялічыць колькасць чытачоў. Мадэрнізм гэты выявіўся пераважна ў наследаванні прыёмаў і жанраў, фармальных сродкаў, запазычаных у чужых літаратур, у тым ліку дэтэктыву і фантастыкі. Што ж, добры намер, добрая спроба. Пытанне толькі — што такі мадэрнізм дае? Ці ён — вынік папярэдняга развіцця, арганічная з'ява, ці — мода, наносная з'ява?

У 20-ых гадах была спроба, за прыкладам у рускай літаратуры, прышчапіць і на нашым літаратурным дрэве чаранкі імажынізму /Язэп Пушча/ і футурызму /Шукайла/. Язэп Пушча нат пакрыўдзіўся быў на прафесара Піатуховіча за тое, што той у сваім дакладзе, чытаным на пасяджэнні Інбелкульту ў 1926 годзе і прысвечаным пытанню перыядызацыі беларускай літаратуры, не знайшоў у ёй такой школы як імажынізм на чале з Я. Пушчам. У ранняга Пушчы можна заўважыць россып імажынізму, пераважна ясенінскага тыпу, але гэты імажынізм, як і футурызм, перанесеныя з чужой глебы, на нашай свайго карэння не пусцілі. Іншая рэч, што пры новай літаратурнай палітыцы, якая рэгламентавала, скоўвала творчую свабоду, нельга было й думаць пра нейкія школы ці плыні.

Можа нехта падумаць, што я тут супраць мадэрнізму, супраць усякіх творчых пошукаў. Божа барані! Я гавару пераважна ў тэарэтычным плане і радуюся нашым мадэрністам і авангардыстам, што яны ёсць. Без іх было б яшчэ больш сумна. Я за таленавітыя пошукі, за смелыя крокі ў нашай літаратуры, за пошукі жанравых, стылістычных і іншых магчымасцяў, але толькі пры той умове, што яны не самамэта, а крок наперад у згодзе з нашай нацыянальнай літаратурай.

Возьмем прыкладам Максіма Багдановіча. На першы пагляд, са сваёй класістычнай паэзіяй, няглядзячы на вершы «беларускім складам», ён як бы стаіць вонку нашай літаратуры, ці лепей сказаць — стаіць **над** ёй. Наша літаратура і сёння не можа яго асвоіць, як бы не дарасла да яго. Але гэта толькі так здаецца. «Мадэрнізм», ці як хочаце называйце яго, культываванне класічных жанраў, а галоўнае — высокі творчы дух Багдановіча, мастацкая дасканаласць, надзвычайнае эстэтычнае чуццё і глыбіня думкі, падтрыманай непадробным натхненнем, апладнілі нашу літаратуру, зрабілі яе сапраўды літаратурай. Я за мадэрнізм, што йшоў бы да творчых вышыняў, як гэта мы бачым на прыкладзе Максіма Багдановіча.

Але я адхіліўся ад тэмы, вынесенай у загаловак артыкула. Сапраўды, перад якім выпрабаваннем стаіць наша літаратура? Ці ўсведамляе яна сябе? Якая ейная будучыня ў святле часу, што мы перажываем? А найперш — дзе ейныя творцы? Што з імі? Ці гатовыя яны, ці здольныя забяспечыць — пытанне стаіць менавіта так — ейнае існаванне як літаратуры беларускай, нацыянальнай, урэшце як літаратуры сур'ёзнай, што сталася б духоўным спажыткам нашай нацыі.

Нялёгка адказаць на ўсе гэтыя пытанні і я высвятляць іх тут не бяруся, я хацеў бы толькі ўзбудзіць думку пра іх, бо яны ж навіслі і пра іх трэба гаварыць.

Рэч ясная, літаратуру жывяць таленавітыя творы, творчая энергія не толькі саміх творцаў, але, я сказаў бы, творчая энергія нацыі, бо ж і яна, непасрэдна ці апасродкавана, так ці інакш удзельнічае ў фармаванні літаратурнага працэсу. Узяць для прыкладу хоць бы такі важны фактар, як яго вялікасць чытач. Упершыню, можна сказаць, наша літаратура апынулася як бы ў палажэнні пакінутай, у яе няма больш апекуна, яна больш неўтрыманка, яна сапраўды сталася свабоднай. І гэта для яе крытычны час. У нашай літаратуры свая, вельмі балючая, калі можна так сказаць, спецыфіка: яна не мае сталага, дастатковага для яе існавання чытача. І не таму, што яна такая ўжо бедная на шэдэўры — яна можа пахваліцца выдатнымі творамі — а таму, што наш чытач у масе сваёй **прывучаны** чытаць па-руску і па сутнасці беларускую мову ігнаруе, што абсалютна ненармальна і ганебна. Асабліва калі ўзяць на ўвагу, што мы ўсё ж, што б там ні казалі, беларусы і нібы збіраемся будаваць сваю дзяржаву, сваю рэспубліку, у якой бы нам жылося добра і прыемна.

Перадумовай для існавання нашай літаратуры, такім парадкам, з'яўляецца **мова**, і не якая-небудзь мова, а менавіта беларуская, прыродная мова беларуса. Не можа існаваць літаратура на мове, якая ігнаруецца. Мова, якая не ва ўжытку, не шліфуецца; слова, якое не ва ўжытку, не гартуецца; пісьменнік, які не чуе свае мовы, не жыве ў ейнай стыхіі, губляе свой талент. Як цяжка ўявіць літаратуру на мове, якой не карыстаюцца, гэтак цяжка ўявіць нацыю без сваёй **роднай** мовы.

Беларуская літаратура стаіць сёння менавіта перад выпрабаваннем, як, зрэшты, і нашая дзяржаўнасць. Літаратура ў нейкім сэнсе таксама дзяржава, духоўны падмурак дзяржаўнасці.

Песімізму тут не можа быць месца, гэта толькі напамінак, што ў нашым нацыянальным будаўнічтве адным з прыярытэтных фактараў з'яўляецца літаратура, і яна патрабуе нашай сталай увагі і пашаны. Гэта не заклік, а патрэба.

*1993*

сітуацыі, набывае шматзначны сэнс, становіцца сімвалічнай.

Сонца выступае як сімвал святла, цеплыні, з ім ніяк не хоча рыфмавацца слова «няма», а паэт мусіць ставіць іх побач, бо няма ў жыцці яго лірычнага героя шчасця і цяпла: «Рыфмую: «Сонца» і «няма». Сонца — як аснова, грунт вясновага абуджэння: «Настоены на сонцы грай вясенні»; як увасабленне той вялікай сілы, што натхняе паэта, надае творчы імпульс: «Вершы пішуцца промнямі сонца».

Пры ўсёй сваёй сіле сонца мусіць суцішыцца, схіліцца перад вечным рухам часу, перад абавязковым у гэтым свеце надыходам холаду, калі яно на нейкі час страчвае ўладу. «Сонца збянтэжана», калі выпадае першы снег...

Праўда, у некаторых вершах вобраз сонца не вызначаецца ў паэта навізной і свежасцю. А ўвогуле ў кніжцы сустракаюцца вершы, якія здзіўляюць незразумелай у дадзеным выпадку «нявопытнасцю», быццам належаць пяру вучня, ствараюць уражанне першай паэтычнай спробы. Характэрным у гэтым плане з'яўляецца верш «Яблынька», яму ўласцівыя спрошчанасць вобразнасці, прымітыўнасць параўнанняў /яблынька, нібы дзяўчынка/, збітасць рыфмаў /прасцінка — дзяўчынка, вядома — стома/. У выніку верш уяўляе сабой праставаценькую замалёўку з натуры са звычайнай канстатацыяй фактаў.

Гэтымі ж недахопамі вызначаюцца вершы «І выйшаў на вуліцу ранішай...», «Ішла жанчына і курыла...», «Добры дзень, зіма...», «Аж смешна!..». Нават адкінуўшы характэрную для многіх непрыхільнасць да некаторых прадстаўнікоў нашай фауны, нельга ўсур'ёз верыць, што ў гарадскога жыхара могуць узнікнуць такія жаданні: «— Хацеў бы паслухаць сімфонію жаб. — А мне каб па шыі пагладзіць вужа» /«З летніх мрояў гараджан»/.

Можна падзяліць, зразумець выказаную няхай сабе залішне рытарычна паэтаву ўпэўненасць — «І ўсё ж чалавецтву быць... Быць!» Але нельга згадзіцца з яго сцвярджэннем, што чалавек «сам сабе бог» /«Вынаходства кола...»/.

Пэўна, не гэтае разуменне дае чалавеку надзею на тое, што ён будзе жыць, будуць жыць яго нашчадкі. Што ж аб'ядноўвае людзей, што з'яўляецца той мяжою адліку, дзе кожны пачынаецца як чалавек, дзе кожны адчувае сябе патрэбным, дзе найбольш утульна і цёпла тваёй душы? Сімвалам гэтай еднасці з чалавецтвам з'яўляецца пачуццё дому. Нават не канкрэтны нейкі вобраз дому, бацькоўскай хаты, а менавіта само пачуццё, адчуванне, што недзе на зямлі ёсць твой дом, твой прытулак. Мы ўсе адтуль. Мы жывыя і шчаслівыя, пакуль маем куды вяртацца. Вось з гэтай думкай, выказанай, як звычайна, шчыра і адкрыта, не згадзіцца нельга:

**Няма ў жыцці другіх дарог**
**Пазбавіцца пакут і стомы.**
**Мы ўсе вяртаемся дадому —**
**Пасля блуканняў і знямог.**

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

*г. Гродна*

Віншуем!

# АЛЯКСАНДРУ ДРАКАХРУСТУ — 70



Думаецца, назва кнігі выбранай паэзіі Аляксандра Дракахруста «Мои вы годы — эшелоны», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1975 годзе, найлепшым чынам перадае сэнс жыццёвага і творчага шляху пісьменніка. Аляксандру Абрамавічу давялося шмат дзе жыць і працаваць, а яго паэзія /цяпер ужо і проза, што засведчыў зборнік «Белый шум»/ проста-такі «саткана» з уражанняў дарог, а за пабачаным і перажытым паўстае не толькі ўласнамастакоўская біяграфія, а шмат у чым бачыцца і калектыўны партрэт пакалення, юнацтва якога супала з гадамі Вялікай Айчыннай вайны.

Нарадзіўся А. Дракахруст 7 лістапада 1923 года ў Маскве, Прызваны ў ліпені сорак першага ў армію, трапіў у інжынерны батальён. Быў салдатам, камандзірам узвода. У 1945 годзе скончыў Маскоўскае ваенна-інжынернае вучылішча, а пазней, у 1962 годзе — завочна Хабараўскі педагагічны інстытут, факультэт мовы і літаратуры... Першы выбар быў зроблены таму, што нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага, а другі звязаны з любоўю да літаратуры. З 1946 года А. Дракахруст — ваенны журналіст.

У друку ўпершыню выступіў у 1939 годзе. Першы зборнік вершаў «Миру быть на земле» выдаў у 1951 годзе ва Уладзівастоку. На рахунку А. Дракахруста кнігі паэзіі «Цвет счастья» /1953, Уладзівасток/, «Зарницы над сопками» /1959, Хабараўск/, «Тревожный ветер» /1964, Хабараўск/. І, безумоўна, шэраг зборнікаў, што выйшлі ў Мінску, а таксама кніжка «Сменяет время караулы», якая выдавалася ў «Бібліятэцы часопіса «Советский воин».

Віншуем Аляксандра Абрамавіча з 70-годдзем, жадаем яму здароўя і творчай рупнасці!

# ЦІ ПАТРЭБНЫ АНЁЛ ЗА ЛЕВЫМ ПЛЯЧОМ?

1. Кажуць, ісціна адна, і яна — як вялікая гара. Да яе ідуць і па альпійскіх лугах, і па стромкіх голых скалах. Чым бліжэй да мэты, тым болей агульнага, пазнавальнага. Людзі вандруюць па жыцці тысячы гадоў, шукаючы сваю — сярод пратаптаных дарог — сцяжынку да вяршыні.

Дарогу душы падказвае кроў.

Мозг у лабірынтах шукае выйсця.

2. Час, які гуляе па прасторы, адкладвае ў падсвядомасці — ды і ўводзіць у свядомасць — дамінуючыя словы, вобразы эпохі. Будзь ты беларус, рускі, паляк, яўрэй — спасцігаеш растворанае ў паветры нешта такое, што на ўсіх уздзейнічае аднолькава.

3. Чалавек на сумежжы індывідуальнага і агульнага, роднай культуры і той, якая сутыкаецца з ёю, вечнага і выпадковага.

Усведамленне паэтам хуткаплыннасці жыцця ў непаўнавартасці прасторы дыктуе радок на сумежжы.

4. Кроў шукае словы. А лёс прыцэльваецца, брацъ ці не браць іх у верш.

Калі ген расшчапіць, то заўважым, што ён амаль цалкам у згодзе з рэлігіяй, з мараллю, з інстынктам, з часам. А пасярэдзіне яго — маленькі непрадказальны востраў. Бунтуючы вулкан сярод цішыні. Менавіта з яго маланкамі зіхацяць вершы. Ідзя запальвае святло на вулкане, будуе аўру, праз якую не пранікаюць бесы.

Калі ў цэнтрах пільна прыглядаліся да бесаўшчыны, то на ўскраінах — да нацыянальнай свядомасці.

5. Нечакана-хаатычнае разменена на актуальна-разгаданае.

У маіх снах — сонечныя фарбы.

Бачу людзей на гары, якія чэрпаюць вялікімі лыжкамі з глыбіні часу.

Сінія вочы, доўгія белыя кашулі.

Стараюцца глыбей зачэрпнуць, і перад тым, як пакласці ў рот, прыглядаюцца, каб у лыжцы не было лішняга. Ці варта звяртаць увагу на «лішняе»?

Беларусь, бусел, бор, маці-краіна...

Калі-нікалі лыжкі сутыкаюцца. Дзінькаюць, як лыжкі, а не звоняць, як званы. Значыць, так патрэбна часу.

На гэтай жа гары, мо злева, а мо справа, людзі ў цемры адшукваюць свой храм.

6. Адчуваю, як бяжыць у жылах кроў, калі гляджу на зоркі. Чую, нехта шэпча за левым плячом. Азіраюся, а гэта анёл-спакуснік, — спрачаецца з анёлам за правым плячом. Што зробіш, векавы рух барацьбы паміж падсвядомасцю і свядомасцю. І нічога тут не высветлена. Шмат з таго, што патрэбна розуму, не ўспрымаецца душой, і наадварот...

7. Размераны радок у размераным руху сонца.

**І неба прамяністае,**
**І сонейка іскрыстае...**

*/А. Сербантовіч/*

**Пара! Зямля набракла прадчуваннем**
**Грымот шалёных, гулу навальніц,**
**І прагай да братэрства і яднання,**
**І ўваскрашэннем храмаў і капліц.**

*/А. Звонак/*

**... Белы май у белай цішы...**

*/У. Пецюкевіч/*

**Спадчына — песня матчына —**
**Просіцца ў белы свет.**

*/М. Скобла/*

Угледзімся. Дзе захавалася столькі духоўнага, я сказаў бы, біблейскага святла, як не ў гэтых простых радках?

Але чаму яны размінуліся з чытачом?

8. Анёл за левым плячом даводзіць:

«Ты зверху глядзіш на людзей, і таму не бачыш цяняў».

9. Але анёл за правым плячом: «Да каранёў, да каранёў, да каранёў»...

У забруджанай зоне нас выратуе экалагічна-чыстая свядомасць?

Дай Бог.

10. А можа, галоўным крытэрыем лічыць мову?

**Павольна цякуць словы ў рацэ часу.**
**Празрыстасць. Добра бачна мінуўшчына.**
**Лік Скарыны. Кожная рысачка.**
**Колькі помню, гэтая рэчка**
**не падпарадкоўвалася аніякім законам**
**І цякла ўгору, як бы ведала — куды.**
**Цішыня, мякка дакранаюцца дзеясловы**
**да душаў.**
**І клічуць, клічуць.**
**Гэта не мяне, не пайду. Не знайшоў**
**сябе сам.**
**І з жахам думаю: калі з гары гэтыя словы**
**пачнуць каціцца ўніз?**
**А яны не коцяцца, а ўзлятаюць птушкамі.**
**І залятаюць высока, зліваюцца з небам.**
**Хоць бы адну разгледзець, акальцаваць...**

Прачынаюся. За вакном галубка пяшчотна стукае ў шыбу. Нешта дзіўнае ў сне ляпеча сын. Пакуль назіраў за птушкамі, лісце на клёне пажоўкла, сын падрос. І нават не ведаю, ці тая самая галубка кожную раніцу будзіць.

Ці на тое я звяртаў увагу?

**Яўген КРЫЦКІ**

Ліст з Ганновера

# ВЫДАВЕЦТВА «РАБЭНРАТ»: РЫЗЫКА ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ

Адна з прыватных нямецкіх тэлевізійных праграм выкарыстоўвае такі рэкламны ролік: па экране з грукатам цяжка тупае дыназаўр, а за кадрам прыемны голас тлумачыць нам, што гэтыя магутныя жывёліны вымерлі праз сваю непаваротлівасць.

Можна спрачацца пра якасць гэтай тэлепраграмы, але з адным варта пагадзіцца. Буйным сродкам масавай інфармацыі часта даводзіцца нялёгка, асабліва калі гаворка ідзе пра тое, каб не толькі прадбачыць тэндэнцыі, аднак і знаходзіць на іх адэкватны адказ. Непасрэдныя адносіны гэта мае і да буйных выдавецтваў. З таго часу, як Усходняя Еўропа стала для нас адкрытай, большасць такіх выдавецтваў зноў распачало друкаванне твораў усходнееўрапейскіх, пераважна рускіх класікаў. Ужо маецца значны «запас» аблегчаных для заснавання анталогій, усё больш аўтараў з усходу Еўропы публікуюць і вядомыя літаратурныя часопісы.

Астатнім выдавецтвам застаецца прынцып: «друкуй тое, што мае попыт», непазбежнай ахвяраю якога робіцца паток актуальнай літаратуры з той часткі еўрапейскай прасторы, якая за сорак пасляваенных гадоў стала для нас вельмі далёкай, а сёння набыла неацэнная палітычнае, эканамічнае і культурнае значэнне.

Гэтая задача, вядома, занадта аб'ёмная, каб яе можна было вырашыць у межах аднаго праекта. І ўсё ж... Серыя «Тэкстура», што з'явілася на пачатку 1993 года пры гановерскім выдавецтве «Рабэнрат», з часам, будзем спадзявацца, здолее прэтэндаваць на ролю трыбуны ўсходнееўрапейскіх літаратур, дзе атрымаюць слова як ужо вядомыя ў нас аўтары, так і тыя, з кім нашы чытачы пазнаёміліся дзякуючы першым публікацыям — да прыкладу, Йардан Радзічкаў, Іван Кулекаў і Мірэла Іванова з Балгарыі, Уладзімір Арлоў з Беларусі, Алена Стэфоі і Кармэн Франчэска Банчу з Румыніі.

Змяняючы адзін другога, з'яўляюцца тэматычныя і прысвечаныя пэўным краінам нумары «Тэкстуры». Першы выпуск меў дэвіз: «Гарады — месца кантактаў», а ў чэрвеньскім былі змешчаныя проза і лірыка з Балгарыі. Галоўнай тэмаю снежаньскага выпуску стануць праблемы моладзі, пра якія будуць разважаць аўтары з Польшчы, Венгрыі, Літвы, а таксама з розных куткоў Нямеччыны. Чацвёрты нумар, што павінен выйсці на пачатку 1994 года, будзе цалкам прысвечаны беларускай літаратуры.

Я згодная: у «Тэкстуры» няма амаль ніякіх шанцаў стаць бестселерам. Яна патрэбна найперш дзеля таго, каб пракласці шлях маладым аўтарам тых краін, якія вядомыя ў нас шырокай публіцы галоўным чынам па невясёлых сюжэтах тэлевізійных навінаў або, у лепшым разе, па ўспамінах пра паездку на танны летні адпачынак.

Крок, што зрабіла выдавецтва «Рабэнрат», не прынясе яму фінансавага поспеху. Аднак нас падтрымлівае ўжо набыты досвед. Абудзілася ўвага ў зацікаўленай літаратураю публікі. Не-




каторыя маладыя аўтары, надрукаваўшыся ў «Тэкстуры», наладзілі кантакты з нямецкімі літаратурнымі выдавецтвамі, а першыя іх сустрэчы з чытачамі ў Гановеры выклікалі пазітыўны рэзананс — як быццам і неблагі вынік для першага года, хоць пакуль што выпуск серыі ўсё яшчэ застаецца мерапрыемствам рызыкоўным.

Адкрыццё інтэлектуальнай і мастацкай terra incognita па той бок абрынутай жалезнай заслоны патрабуе не авантурыста, які проста лічыць, што ўсё засталося ў мінулым, а — роздуму таго, хто ведае, што яму трэба новая якасць, якую наканавана адкрыць для сябе, каб застацца жыццяздольным.

**Сільвія ГАЙСТ,**
**рэдактар выдавецтва «Рабэнрат»**

*Пераклала з нямецкай мовы Вольга ШПІЛЕЎСКАЯ*

## З паэтычнай пошты

Мікола ЛЯШЧУН

●

Сярод паэтаў я — настаўнік,
Сярод настаўнікаў — паэт,
І незалежна ад абставін
Па-свойму успрымаю свет.

Мае будзённыя радкі —
Пачуцці, думкі і не болей.
Я іх складаю украдкі,
Бывае, на пярэрвах школьных.

Пішу ў гарэзны крык дзіцячы,
Бы клянчу ў Музы даніну,
І аддаю паперы з плачам
Душу — як майстар палатну.

Я тку блакітныя нябёсы,
А пачынаецца урок —
Дзяціныя ўплятаю лёсы
У вершаваны паясок.

●

Жыццё пралятае, як міг.
Мільгаюць празрыстыя цені
Спакуслівых мрояў маіх,
Што ў вырай-нябыт паляцелі.

Ім добра, там ціш і спакой,
З душою спрачацца не трэба
Маёю,
ў ёй вогненны рой
І штось ад зямлі і ад неба.

Разбіліся мары ушчэнт
І сталі пачварнаю явай.
На боскасць замежны патэнт
Выклянчвае людзям дзяржава.

●

Я задыхаюся у быце
Няшчырых слоў, а нейк цярплю.
Бярыце ўсё, усё бярыце,
Адно не дам, што я люблю.

Нібы на споведзі укленчу
Прад лікам мацеры Святой,
Трываю здзекі і не енчу,
Смяюся з балбатні пустой.

Бярыце ўсё, усё бярыце,
Апроч свабоды, вас малю.
Пакіньце васількі у жыце,
Пакіньце веру і зямлю.

### ХТО МЫ?

Кіслыя твары, посныя,
Позіркі ўсе зайздросныя.
Сэрцы у нас халодныя,
Толькі адзенне моднае.
Слёзы у нас сівушныя,
Нават у горы двурушныя.
Копім рублі пакутныя,
Цнотныя і прастытутныя.
Ганьбім пачуцці светлыя,
Мовім — няшчыра ветлыя.
Цэркавак наадчынялі...
Душы ж — павысыхалі!
Не верым ні ў што і ні ў кога,
А просім ратунку у Бога.

●

О, дай мне, Божа, розуму і волі,
Каб не цураўся зруйненых двароў,
Не адступіў ад слова святароў
І адшукаў у споведзі спатолю.

Спяшаюся, кудысь паспешна крочу,
Пасля спынюся ў роздуме-задуме.
Стамлюся у людскім бяздушным тлуме,
Дык сэрца цешу жнівеньскаю ноччу,

Калі над галавою слодыч лікаў
Яснюткіх, чыстых, непадкупных зор...
Маё сумленне — лепшы рэвізор
Удач маіх жыццёвых і пралікаў.

Ні перад кім пакуль што не ў даўгу
І ні ў каго не клянчу сытай долі.
О, дай мне, Божа, розуму і волі,
І я святое дзецям зберагу.

*м. Лагойск*

## Проза

***Жыць стала лепей, жыць стала весялей. Дзіва што! Кожны дзень навіны, ды яшчэ якія! Кожны тыдзень новыя цэны, ды яшчэ якія! А гэта ж такое шчасце: прыходзіш у магазін і бачыш: учора буханачка хлеба каштавала 60 «зайчыкаў», а сёння — 120. А што тут дзіўнага? Зарплату ж і пенсію вымяраем дзесяткамі тысяч, а некаторыя і сотнямі тысяч. Я, напрыклад, на сваю пенсію магу купіць ажно дзве каністры бензіну. Хіба ж не шчасце? Не можаш купіць — хадзі пехатою, стары корч, здаравейшы будзеш.***

***А калі весела жывецца — спяваць хочацца. Але што гэта? Чамусь дрэнна мы спяваем, пісьменнікі. Галасы ў нас пахрыплі ці што? Ці ніяк не аддыхаемся ад бегу да свабоды? Поўная ж свабода, цэнзуры няма — пішы што хочаш, як хочаш. Не. Мала пішам. Пра глыбокую даўніну нешта з'яўляецца. А пра гады «вялікай перабудовы» — вельмі мала. Можа, чытачам, занятым сённяшнімі праблемамі і клопатамі, не да нашых твораў? Не думаю так. Калі не ім, то дзецям іх усё ж захочацца пачытаць, даведацца, як іх, грэшных, вярталі ў рай.***

***Упэўнены, што людзі не страцілі і не страцяць любоў да мастацкага слова. Таму я, стары, сівы, падбіты конь, запрогся ў плуг і... ару цаліну сучаснасці. Ару, магчыма, з агрэхамі, але ж на неўзараным расце адно пустазелле. Давайце араць, мае дарагія калегі! Звяртаюся перш-наперш да маладых.***

***У «Маладосці» надрукаваў аповесці «Зямны рай» і «Вернісаж». У гэты ж часопіс здаў аповесць «Сатанінскі тур». Пойдзе, як абяцае рэдакцыя, у лістападаўскім нумары. У «Полымя» здаў больш аб'ёмную аповесць — «Падзенне». Завяршаю працу над аповесцю пра лёс старой актрысы ў наш шчаслівы час.***

***Такая справаздача перад чытачамі аб працы маёй за апошнія гады.***

***Прапаную, сябры, вашай увазе старонкі з аповесці «Падзенне».***

***АЎТАР.***

Іван ШАМЯКІН



# ПЕРШЫ КРОК

Раман сказаў няпраўду. каньяк яму не падарылі, каньяк ён купіў.

Яшчэ колькі дзён назад цана такога імпартнага пітва ашаламляла, ён абураўся: «хто п'е?» Яшчэ больш гэтая цана аглушыла б Галіну, маці, дзеда. Хіба бацька з яго легкадумнасцю мог прыняць пакупку без сенсацыі, бацьку нішто не здзіўляе — ні высокае, ні нізкае. Не хапіла духу сказаць, што купіў каньяк. Пачаўся б допыт: з якой нагоды? Адкуль грошы? Навошта такое марнатраўства, калі ў вялікай сям'і хапае толькі што на хлеб і малако, кілбаса і мяса — па святах?

Адкуль грошы — вось гэтага ён не мог сказаць нікому, ні сваім, ні чужым. Але патраціць яму гэтыя грошы хацелася як можна хутчэй; не грошы адмыць, як робяць усе нячыстыя на руку, — ад грошай адмыцца, якія зваліліся, як снег на галаву.

З тымі, хто краў, браў хабар, Раман вёў бязлітасную барацьбу ў райкоме, яго цанілі за гэта і баяліся, нават першы сакратар баяўся. Пра сумленнасць яго сачынялі анекдоты: саслужывец пачаставаў яго газіроўкай, і Юшкоўскі вярнуў таму пятак. Гэта, безумоўна, перабольшанне, але тое, што за вячэру ў кампаніі сяброў ён заўсёды плаціў сваю долю, гэта праўда. Аднак сухаром, педантам, індывідуалістам ніхто яго не называў. Кампанію любіў. І выпіць умеў, менавіта — умеў, бо заўсёды ведаў сваю норму, вось тут ён нагадваў жонку з яе матэматычнай выверкай кожнай дзеі, матэрыяльнай і маральнай. Аднак і Галіне ніхто ніколі не кінуў папрок, што яна сваёй матэматыкай адгароджваецца ад людзей, наадварот, яна была душой і свайго калектыву — у аддзеле інстытута, і амаль заўсёды рабілася лідэрам любой часовай групы — у санаторыі, у купэ вагона, у магазіне нават.

Рамана яшчэ колькі гадоў назад сваталі на гарадскі народны кантроль. І з Камітэта хацелі ўзяць у Кантрольную палату — ведалі, што ён за чалавек. Расчараваў арганізатараў палаты — не пайшоў. «Не магу я быць кантралёрам, не для майго характару гэта, не мая стыхія». Ён адчуваў нават нейкую боязь, як бы не верачы самому сабе, калі даводзілася мець справу з матэрыяльнымі каштоўнасцямі, з персанальнай адказнасцю за іх. Ён вельмі цаніў сваю работу ў Камітэце: яго аддзел не нёс гэтай персанальнай адказнасці за сыравіну, матэрыялы, прадукцыю. Не ў захапленні быў ад рэформ, якія пакуль што памагалі не росту, а спаду, развалу, але тое, што ад кіруючых структур усе абавязкі перадалі непасрэдным вытворцам, — гэта Раман Юшкоўскі ўхваляў. Змову з сумленнем меў у іншым: мяўляў, па логіцы з абавязкамі трэба перадаць і правы, але... па-першае, вытворцы не гатовыя да гэтага, парвуць сувязі нават у сябе дома, а не толькі ў СНД, а па-другое, у душы падтрымліваў тых, хто шчыра, можа, нават цынічна сцвярджалі: калі аддамо ўсё, дык навошта тады мы? А каму хацелася, каб Камітэт скасавалі? І Раману не хацелася. Упэўнены быў, што сваю, не такую ўжо вялікую зарплату атрымоўвае недарэмна: працы хапае, нярэдка сядзіць да дзевяці-дзесяці вечара. Прывілеяў, якія меліся некалі, не стала. Кабінет, праўда, добры. Але машыны пазбавілі. Выклікай дзяжурную. Трасцу яе выклічаш. А ў сталe заказаў — як і ўсюды: калі не спознішся, то захопіш курыцу як вымачаную ў сіньцы ці слоік кансерваваных буракоў — з дабрачыннай дапамогі, кормяць нас дабрадзеі! Бацька дасціпна здзекаваўся з гэтых буракоў: «Ешце, паны, запораў не будзе. Музыкальна прасвішчаце — і касмічную лёгкасць, бязважкасць набудзеце. Хутка плаваць будзем уніз галовамі. Не жыццё — рай нябесны. А ты, старая, незадаволеная!» Дзяніс імітаваў дзедавы словы, аздабляючы школьным жаргонам. Вясёлая сямейка! А што — сапраўды вясёлая. Ён, Раман, не мастак на красамоўнае выяўленне сваіх пачуццяў, але ўпотай радаваўся, што ў яго такая сям'я. Дзед — жывая легенда, гісторыя, увасобленая ў адным чалавеку. А бацька!.. У яго нібыта легкадумных жартах нямала мудрасці; не хто іншы навучыў яго з маленства глядзець на свет, на людзей крытычна, крытычнасць гэтая прывілася і памагала яму: скептычнасць адсеялася — яна не сур'ёзная, трывожыць, што яе пераймае Дзяніс. Але Дзяніс яшчэ дзіця. Дзяніса выхавае не дзед — час, новыя вытворчыя адносіны. Якія яны будуць, нашы дзеці? — гэта трывожыла, хоць неспакой слабеў з кожным днём. Раман цяпер адчуваў удзячнасць сваім і чужым, якія не далі яму ажыццявіць абарону райкома. Не сядзець бы яму ў гэтым кабінеце. Глядзі, што мог бы апынуцца ў мінскай «матроскай цішыні». Трэба ўпісвацца ў новае жыццё! А яно, жыццё гэтае, дзіўнае, падносіць такія сюрпрызы, што галава кружыцца. Тыдні тры назад з'явіўся да Рамана школьны і інстытуцкі сябра Марат Вістун.

Прыёмнай і сакратаркі ён не меў, але здаралася, што каля кабінета ўтваралася жывая чарга, кіраўнікі прадпрыемстваў любілі загадчыка аддзела Юшкоўскага за яго дакладнасць, аператыўнасць, за трыманне слова: сказаў — зрабіў.

Так было і тым днём. Рыхтавалі міжнародны сімпозіум па прыватызацыі. Раману не падабалася, што на такія сімпозіумы і канферэнцыі прыязджалі спецыялісты з далёкага замежжа і бесцырымонна лезлі не проста ў дарадцы, а дыктавалі свае правілы, умовы. Людзі яны, безумоўна, разумныя, дурняў не шлюць, але, па-першае, нашых надзвычайна спецыфічных умоў не ведаюць, а па-другое, — Раман даўно гэта адкрыў — працуюць не нам на карысць, а сабе, асабліва немцы, амерыканцы. Юшкоўскі ненавідзеў такіх «дабрадзеяў». Такой жа думкі трымалася і большасць дырэктароў. Старшыня Камітэта Нятрэба быў у захапленні ад заходніх менеджэраў. Таму дырэктары раіліся не з ім — з Юшкоўскім.

З кіраўнікамі буйных заводаў заўсёды цікава пагаварыць, гэтыя людзі ведаюць усе эканамічныя кнопкі і ўмеюць прадказаць наперад, якая кнопка можа заесці і матор пачне траіць, чыхаць, а то і зусім заглухне. Загаварыўся з дырэктарамі, ажно пакуль не з'явілася патрэба збегаць у канец калідора. Выйшаў у калідор і... не паверыў вачам сваім: Марат сядзіць! Не бачыліся гадоў восем. Узрадаваўся шчыра. У інстытуце неразлучнымі сябрамі былі. Сядзіць, як бедны сваяк. У пакамечаным джынсавым касцюме. І сам нейкі пакамечаны, непаголены — яўна з дарогі.

Абняліся. Ляпалі адзін аднаго па плячы. Радасна смяяліся.

— Гэта вы на сакратарцы эканоміце? Ха, — рагатнуў Вістун.

— На ўсім эканомім. Даўно сядзіш?

— З гадзіну.

— Ну, даеш! Мне проста крыўдна.

— Ды чорт цябе знае. А раптам выставіў бы? Начальнік усё ж!

— Ідзі, ідзі ў кабінет. Павесялі маіх дырэктароў, — у інстытуце Марат быў мастаком на жарты, выдумкі... — Я скокну, зраблю «мінус наліць», як ты казаў.

Юшкоўскі канчаў размову з дырэктарамі. Вістун сядзеў у куточку, здавалася, далёкі ад спраў іх, хоць і быў інжынерам.

Раман пашкадаваў сябра: «Нясоладка жыве. Напэўна, будзе прасіць пасаду. Трэба будзе памагчы». Але праз хвілін колькі Вістун здзівіў. Загаварылі аб інвестыцыях замежных фірм, і гэты абяздолены, папрасіўшы прабачэння, выказаўся нечакана і вельмі дасведчана на гэтую тэму.

Раман здзівіўся і ўзрадаваўся: «Ды гэта ж скарб! Адкуль у яго такія веды?»

Яшчэ больш здзівіўся, калі засталіся ўдвух, і Вістун пачаў расказваць пра сябе. Які падманны знешні выгляд! Перад ім сядзеў прэзідэнт Маскоўскай камерцыйнай фірмы, назва якой не раз з'яўлялася ў рэкламе тэлебачання; фірма мела свой банк. Не хацелася верыць, што гэты неахайна апрануты чалавек мае ўласныя офісы ў Вене, у Будапешце. У нейкі момант у Рамана з'явілася падазронасць, што Марат разыгрывае яго. Па розыгрышах у іх студэнцкай групе роўнай яму была хіба Мая Клімовіч — прыроджаная актрыса, весялуха, ад яе чакалі падвоху, жарту, не верылі ёй і, аднак, усё роўна траплялі на яе кручок. Марат працаваў грубей, яго выкрывалі часцей і нярэдка ўсе разам, асабліва калі па-

магала Мая, добра-такі разыгрывалі яго. Часам не бяскрыўдна. Але ён не злаваў, толькі пагражаў: «Пачакайце ж, чэрці зебрападобныя! Я вам прыпомню». І прыпамінаў.

Перапыніўшы на паўслове эскізны расказ аб сваёй дзейнасці, Вістун раптам засмяяўся:

— Хочаш, скажу, пра што ты падумаў зараз?

— Я? Пра што?

— Што я містыфікую цябе. На, палюбуйся на мае дакументы. Во пасведчанне прэзідэнта, візіткі, замежны пашпарт. З Мінска я лячу заўтра ў Франкфурт. Свеціць кантракт на мільярд марак. На дробязі не разменьваюся, дарагі мой сябра! Гандляваць дык гандляваць! З размахам на ўвесь свет!

— Прадасцё краіну.

— Яе даўно ўжо прадалі. Без нас... Ды і якую краіну? Расію? Беларусь? Не бойся. Мы паможам пабудаваць новую эканоміку. Я табе гарантую выгоднае месца.

— Я задаволены і гэтым.

— Без фантазіі ты, Раман. З тваімі ведамі і вопытам праціраць старое крэсла, якое даўно працёрта партакратамі? Крэсла павінна быць новае. Але давай у палітыку не лезці, а то яшчэ, чаго добрага, пасварымся. Мы з табой — дзелавыя людзі. І ў мяне да цябе дзелавая просьба. Дробная. Не па маіх маштабах. Але хачу памагчы людзям, Рэспубліцы сваёй. Хачу мець філіял фірмы ў Мінску. Па сутнасці, маю ўжо яго. Людзей. Трэба офіс. Знайшлі. Завод, дзе генеральным Касякоў... Знаеш яго?

— Яшчэ як знаю! Дзядзька ўпарты, але з галавой.

— Дык вось, яны пабудавалі новы дзіцячы сад. Увосень перавялі дзяцей. А стары пустуе. Мы зрабілі б з яго ляльку. Лепшы офіс. Але падначаленыя тваё — што старыя казлы. Чаму не прадаць — уразумець немагчыма. Жывуць людзі па старых мерках. Ніякія не прадпрымальнікі. Прывыклі даіць дзяржаву. І добра даілі. На абарону дзяржава не шкадавала. Памажы. За цаной не пастаім. У мерах разумнага, безумоўна: дамо дзесяць мільёнаў. Але гэта максімум. Касякову не кажы... Стар'ё ж. Там рамонт на такую суму яшчэ пацягне. Але, бачыш, мы ідзём на любыя траты.

«Аднак размах», падумаў Юшкоўскі, пранікаючыся і павагай да былога сябра, і тым цяжкім пачуццём, якое таіў да ўсіх такіх вось наваяўленых капіталістаў. «Пачуццё» гэтае, бадай, можна назваць класавай нянавісцю; крыніцай яго быў Вялікі Дзед, стары гулагавец катэгарычна не прымаў з'яўлення новага класа — паразітаў, інакш вістуноў не называў. Ды і камітэцкія ставіліся да іх, у большасці сваёй, далёка нядобразычліва, хоць справу з імі мелі, некаторыя бралі хабар, шапталіся пра гэта, хоць доказаў не мелі, і Раман, выхаваны дзедам у крышталёвай сумленнасці, не хацеў верыць гэтаму і не любіў такога пляткарства. Выступаў нават на нарадах, не толькі ў сваім камітэце, — у Саўміне, што дзяржаўныя служачыя павінны прыняць кодэкс паводзін — як прысягу і выступаць супраць агульнага абвінавачвання іх у карупцыі, што робяць журналісты: фактаў здабываюць няшмат, а абагульненні робяць глабальныя. Карупцыя ёсць, яна раз'ядае апарат. Але давайце асуджаць канкрэтных хабарнікаў, а не вінаваціць усіх гамузам. Абразліва ж такім людзям, як ён, Раман.

Над просьбай Марата Юшкоўскі задумаўся. Глыбока. Так, што госць пажартаваў:

— Ша! Чапай думае!

Думаць Раман стараўся па-сучаснаму, каб не трапіць у лік «старых казлоў». Калі рынак перамагае, калі наступае глабальная прыватызацыя, то чаму яму трымацца, як сляпому за плот, за аджылыя меркі? Да таго ж быў упэўнены, што ўпарціцца не Касякоў — яго намеснікі. Можа, «пагрэлі» ўжо рукі. Тады варта даць па руках.

Не адказаўшы нічога Марату, Раман набраў па «вяртушцы» генеральнага.

Некароткая размова пра справы — пра пастаўкі, збыт прадукцыі, разлікі з Украінай, Арменіяй. Пасля ўжо, як між іншым, пытанне:

— Павел Іванавіч, у цябе былы дзіцячы сад пустуе. Што думаеш рабіць з ім? Ёсць пакупнікі? Дык я табе скажу: у мяне сядзіць вельмі салідны пакупнік — прэзідэнт Маскоўскай фірмы з беларускай назвай «Крыніца». Знаеш гэтую фірму? Чалавек гэты — мой інстытуцкі таварыш. Магу даць самыя высокія рэкамендацыі. Не сумняваюся, што філіял такой фірмы... з аўстрыйцамі, немцамі звязаны... паможа табе ў збыце, ды і ў набыцці новай тэхналогіі, пра што ты марыш... Няхай прыязджае? У дванаццаць? Во дзякую. Зараз сябра мой будзе мяне біць, але мы з табой таксама неблагія камерсанты. Цану ты з яго злупі, як з капіталіста. Паказвае кулак. І ўвогуле вазьмі за жабры па прынцыпе: паслуга за паслугу. Ну, дзякуй, Павел Іванавіч. Жыві багата. Да сімпозіума рыхтуемся? Дай бой кансультантам з-за бугра. Правільна! Палезуць у палітыку — па зубах. Няхай ведаюць, што мы і самі з вусамі. У цябе яны проста казацкія. Сябра мой Вістун Марат Францавіч. Знаеш? Усё ты знаеш. Яшчэ, кажаш, дзень-два і сад сплыў бы? Не для мяне рабі. Для справы. Дзеля рэформы, якая захлынаецца. Дай ёй укольчык, рэформе. Хіба я на цябе забываўся? На цябе забудзеш? Ого! Ты ў мяне — першы з першых. Нятрэбу цераблю як трэба за твой завод. Будзеш мець заказ. Без тваёй прадукцыі ніводная армія не пражыве. Дзякуй за добрае слова. Заўсёды гатовы, як юны піянер. Будзь здаровы. З мяне — каньяк.



Малюнак У.СКРЫГАНАВА

Юшкоўскі паклаў трубку, задаволена засмяяўся да сябра.

— Лічы, што сад у цябе ў кішэні.

Вістун падняўся.

— Дай я цябе абдыму.

— Ты яшчэ здольны на такія сентыменты? Жонку часцей абдымай. Як яна?

— Люда? Тут, яна, у Мінску... Я развёўся...

— А-а...

Гэтую далікатную тэму працягваць ім не хацелася. Марат весела пераключыўся на іншае:

— Цікавая ў нас размова паміж дзелавымі людзьмі. Эпапея. Спектакль. Заходнікі так не ўмеюць. Сухары. Прагматызм засушыў душы. Жарты ў іх — як камп'ютэрам выдадзеныя. Але... ведай, як я табе ўдзячны. Не адлучайся ў канцы дня. Я прыеду. Пасядзім, успомнім мінулае. Ёсць салідны рэстаран?

— Я ў іх не бываю.

— Раман! Засохнеш! Усё трэба размачваць, сябра мой верны. Дружбу. Любоў. Кантракты. Павел твой, сын Іванаў, — чалавек з гумарам?

— Які яшчэ гумарыст!

— Прыемна мець справу з вясёлымі людзьмі. Лячу да яго.

— Транспарт маеш?

— Раман! Я перастаў бы паважаць сябе, каб мне не падавалі машыну ў любым горадзе любой краіны. А каб у родным горадзе ў мяне не было машыны!.. Ха-ха! Дык чакай.

Юшкоўскі на нейкі момант, да чарговага наведвальніка, застаўся адзін і быў прыемна задаволены, што памог сябру, памог проста і бескарысліва. Увечары вып'юць? Хто з былых аднакурснікаў, сяброў, сустрэўшыся, не выпівае! Думаў пра Маратаву кар'еру. Каб сказалі — не паверыў бы, што ў сябра такія здольнасці. У інстытуце такія якасці ніяк не выяўляў, вызначаўся хіба ўменнем разыграць ды поспехам у дзяўчат, мяняў іх, як франт пальчаткі. Што ж, выходзіць, і гэтыя здольнасці памагаюць стаць бізнесменам.

Увечары Вістун не з'явіўся. Пазваніў позна дадому. Папрасіў прабачэння. Прычыну назваў уважлівую:

— У мяне тут сын. А сын ёсць сын. Я і для яго стараюся. Здзелка адбылася. Офіс маю. Дзякую табе яшчэ раз.

Сябра з'явіўся на другі дзень раніцою на работу літаральна на трыпяць мінут — спяшаўся ў аэрапорт. Адзеты быў не па-ўчарашняму, не бедняком, — не новы, але добра адпрасаваны касцюм, моднае паліто: так спяшаўся, што нават не распрануўся ўнізе ў гардэробе.

— Раман! Маім намеснікам, кажучы звыклай мовай агента, прэзідэнтам Мінскага аддзялення будзе Кін-Кіёнак, Ігар Іванавіч. Ты яго павінен помніць. Дацэнт. Чытаў нам курс энергетыкі... электрычныя рухавікі... Калі звернецца, памажы яму, калі ласка. А гэта табе мой падарунак, — і паставіў за стол, за Раманава рабочае крэсла, надзвычай элегантны дыпламат з бліскучымі, што залатыя, кодавымі замкамі, з такімі ж вугольнікамі. Не дыпламат — мара кожнага чыноўніка.

— Што ты, Марат! Не варта! Дарагая ж рэч.

Вістун неяк дзіўна рагатнуў.

— Для мяне дарагая? Што табе прывезці з Германіі? Заказвай.

— Слухай, мне чартоўскі няёмка. Але Дзяніс мой... у дзесятым жа класе! — пячонкі ад'ёў: у равеснікаў ёсць джынсавыя касцюмы, а ў яго і штаноў няма. Што зробіш — мода!

Вістун зноў неяк незнаёма засмяяўся, раней у гарэзы-рагатуна такога смеху не было.

— Скромныя ў цябе патрэбы. Будзе яму касцюм і да касцюма. Будзь здароў! Лезь па службовай лесвіцы вышэй. Я памалюся за цябе. Я — спонсар царквы. За мяне моліцца епіскап, — засмяяўся знаёма і моцна абняў, прытуліўся мяккай надухмяненай шчакой да Раманавай шчакі і, здалося, не выйшаў, а ўзнёсся, пакінуўшы пах дарагіх духоў.

«Піжон», — бяскрыўдна ўпікнуў сябра Раман і падняў дыпламат. Паставіў на стол. Такой рэччу нельга не любавацца — цацка! Не падабалася толькі, што цяжкаваты. «Чым ён напакаваў? Каньяком? Во свістун-Вістун!»

Хацеў адкрыць дыпламат. Але... не зачыніўшы дзверы, лепш не рабіць гэтага: калегі заходзяць без стуку. Крый божа, убачаць каньяк — будзе размоў, непрыемных для яго: маўляў, спакусілі і святога Юшкоўскага; акрамя яго, бадай усе іншыя атрымоўвалі падарункі, дырэктары заводаў не рабілі з гэтага тайны — адкрыта дарылі ўзоры новай прадукцыі, што запускалася замест абароннай, — кавамолкі /а дзе кава?/, міксеры /што ўзбіваць?/, прасы, фены, скавародкі, на якіх не падгарае без масла — што толькі смажыць?. Ён было прыняў такую скавародку, і яго дома бязлітасна высмяялі — усе, як змовіліся: дзед, бацька, Галка; Дзяніс, парася, ажно дрыгаў нагамі: «Лепш, бацька, бяры хабар барзымі шчанятамі. А то — скавародка! Куры засмяюць! Во гумарысты дваццаць першага стагоддзя! Гогаль апух бы ад зайздрасці».

«Пагляджу, вялікі гумарыст, як ты з гэтага дыпламаціка пасмяешся. Клянчыць пачнеш, пафарсіць любіш, ды дулю палучыш», — замілавана пагразіў сыну.

Сунуў дыпламат пад стол. Вельмі своечасова, бо праз момант заглянуў намеснік старшыні Андрэй Бязвушка.

— Раман Данілавіч, хадземце да мяне. Параімся яшчэ раз. Для шэфа больш важнай справы няма, як гэты, па-мойму, нікому не патрэбны сімпозіум. Але гэта — між намі. Наш і так есць мяне без солі за мой скепсіс.

Бязвушка быў чыноўнік да мазга касцей, стары апаратчык. Але думкі сваёй ніколі не скрываў. І такія, як Раман, яго любілі. Паміж старшынёй і ім нярэдка адбывалася кароткае замыканне, але разумны і хітры Нятрэба ведаў адно: гэты не падвядзе, брыдоты не зробіць, з-за ўзросту свайго на вышэйшае крэсла не прэтэндуе, працы аддаецца шчыра.

Кабінеты, калі не адыходзілі са свайго паверха, не зачынялі — унізе міліцэйскі пост. Раман таксама не зачыніў свой кабінет. Але, седзячы ў намесніка, падумаў, што на такі дыпламат можа спакусіцца любы. Нядобра так думаць пра калег, ды адчапіцца ад такой грэшнай думкі ніяк не мог. Не слухаў, што казалі супрацоўнікі, начальнік пра сімпозіум — думаў пра дыпламат. Ажно брыдка і сорамна стала: як малы.

Не вытрымаў, выйшаў. Зачыніў дзверы свайго кабінета, палюбаваўся дыпламатам. Палажыў на стол, адчыніў. І... ажно кроў ударыла ў галаву, зазвінела ў вушах. У дыпламаце ляжалі грошы. Многа грошай. Сторублёвыя купюры ў банкаўскіх пачках. Строга глядзеў на яго, можа, з дзесяці купюр Уладзімір Ільіч.

Раман хутка зачыніў дыпламат, сунуў пад стол. Апанаваў страх: яўны ж хабар! Але за што? Вось і рабі паслугу старому сябру. Забыўся, што ў наш час усё прадаецца і купляецца і ў першую чаргу сумленне. Лаяў Вістуна такімі словамі, якіх, бадай, ніколі не ўжываў. Але чым паможа лаянка? Трэба вырашыць, што рабіць з гэтым хабарам! Каб Вістун знаходзіўся тут, у Мінску, паляцеў бы да яго і... у вочы яму былі б да рэчы і гэтыя словы. Але Марат дзесьці ў небе ўжо! Багацей, свіння! Для яго такая сума, выходзіць, дробязь. Во гад! Бандыт! Спекулянт! Аднак што рабіць?

Пайсці сказаць Бязвушку і калегам, што сябра, якому ён памог купіць нерухомасць, пакінуў яму, нічога не сказаўшы, вось гэты дыпламат? І яны павераць? Дыпламат напалавіну запоўнены пачкамі. Калі не ўсе, то большасць напэўна падумае: вот хітруган Юшкоўскі! Адхапіў добры куш, палавіну, а можа, і дзве трэці паклаў сабе ў кішэню і... хоча выдаць сябе за святога! Ведаем мы такіх святых! І паслуга... байка для дзяцей, што адзін званок Касякову, за званок гэтулькі не даюць, няма дурняў. Званок каштуе пляшку-дзве каньяку. Ліцэнзія на вываз... гледзячы чаго — можа пацягнуць і на поўны дыпламат. Гэтыя людзі цану ведаюць. Адразу ў іх станеш буйным хабарнікам. Ды і сябе і нахабніка гэтага Вістуна моцна можна падвесці, калі раптам хтось пажадае «раскруціць» справу. А могуць пажадаць — найбольшыя з хабарнікаў: залажылі калегу — засцераглі ад пракуратуры сябе: во, маўляў, якія мы пільныя. Прынесці грошы дадому, шчыра расказаць — адкуль? І няхай ляжаць да новай сустрэчы з Вістуном? А пры сустрэчы вярнуць іх? Спачатку гэта здалося разумным. Маці, бацька зразумеюць. А Галка? Ёй гісторыя гэтая прынясе душэўныя пакуты: вунь што даюць яе Раману! А Вялікі Дзед? Самае цяжкае было б страціць павагу дзеда. А гэты нязломны крышталёва чысты чалавек безумоўна асудзіць строга і бязлітасна.

Спакой у доме будзе парушаны — няма сумнення.

Адпаў і гэты варыянт. Узнік новы. Занесці грошы ў школу глуханямых дзяцей. Перадаць ананімна, не называючы сябе. Але як перадаць? Каму?

(Працяг на стар. 10-11)

доўгіх. Абыякавасць не грэе і не марозіць. У нейкай ступені хварэе на абыякавасць, праўда, іншую па змесце і форме, яго маці: слоў многа, нярэдка высокіх, а ўвагі да чалавека мала. Нават ён, сын, адчуваў дэфіцыт гэтае ўвагі. У бацькі, наадварот, увагі да людзей — ажно замнога, але яна нейкая як бы карысная не для іншых — для сябе, напэўна, ім кіруе адно жаданне — як бы вывудзіць ад субяседніка нешта такое — слова, думку, звычай, што можна ўставіць у аповесць ці сцэнарый. Шчырая ўвага да людзей у старога Юшкоўскага, ён улюбёны ў дзеда-легенду, стараўся вучыцца ў яго. І вучоба гэтая памагала яму ў партыйнай рабоце: яго любілі перш-наперш за ўвагу да людзей.

Прыгажуня гэтая не падобна ні на каго з яго блізкіх. Але ў гэтым таемнасць яе, якую хацелася разгадаць.

— Вераніка! Аддаю Рамана Данілавіча пад тваю апеку, хоць хацеў зрабіць цябе гаспадыняй.

— Хросны п'е? — спытала жанчына, здзівіўшы госця.

— Ён нармальны чалавек ва ўсіх адносінах.

Вусны яе, нафарбаваныя, але яўна засмяглыя, як у дыябетыка, неяк грэбліва скрывіліся. Ад якіх слоў ці ўяўленняў?

— Давайце — нап'ёмся, — прапанавала яна Раману з дзіўнай непасрэднасцю, па-свойску. — Ёсць жа што выпіць!

Рамана гэта рассмяшыла. А ў Кін-Кіёнка злосна бліснулі вочы, ён паграziў сястры пальцам.

— Я табе нап'юся!

— Пайшоў ты к чорту! Начальнік! Я над вамі начальніца, багачы і панства!

Такая смелая непасрэднасць спадабалася Раману і яшчэ больш развесяліла. Жанчына стала сімпатычнай не толькі сваёй знешнасцю, але і незалежнасцю, свабодай. Паслала нахабніка к чорту і той аблізнуўся, абурыцца не пасмеў.

А Раманаў смех запаліў у яе вачах цікавасць да яго. Абыякавасць знікла. Ён адчуў нейкім сёмым пачуццём, што яна ўрэшце звярнула на яго ўвагу, гэта пацешыла яго самалюбства. Не толькі жанчыне, але і мужчыну прыемна, калі прадстаўніца — ды яшчэ такая! — кладзе на цябе вока. З'яўляецца тайная надзея, што пакладзе і руку — абніме.

— Сядзем побач, — бадай загадала Вераніка, калі патрон паляцеў сустракаць кагосьці з высокіх гасцей. — Я ж маю загад апякаць вас. А наконт напіцца — я пажартавала. Хоць я сёння злосная і магу перабраць. Вы стрымлівайце мяне. Вам я буду падпарадкоўвацца. Абяцаю. Я добрая. Падатлівая.

Пасля першых чарак Вераніка стала вясёлая, гуллівая. Церлася нагой аб Раманаву нагу, узбуджаючы, што яго і радавала і моцна бянтэжыла: бацька дваіх дзяцей паводзіць сябе, што студэнт! Шаптала на вуха яму даволі гучна — чулі суседзі — характарыстыкі некаторым прысутным і... цалавала мочку яго вуха, цмокала ў шчаку, і ён гатовы быў лезці пад стол — глядзяць жа знаёмыя, некаторыя, безумоўна, зайздросцяць, але тым больш будуць плткарыць: крый божа, калі ёсць хто знаёмы з Галкай — не адмыешся. Не забыцца паглядзець у люстэрка, каб хоць губная памада на шчоках не засталася!

Раман шчыра сачыў, каб Вераніка не піла: адстаўляў моцныя напіткі, наліваў шампанскага і проста вады. Ад вады яна моршчылася, грazіла яму пальчыкам, але не скандаліла — сапраўды падначальвалася. І ўсё-такі ён не ўсачыў, калі яна перапіла; выходзіла нібыта ў туалет, а стаяла за калонамі каля дальняга канца стала, і там «добрыя знаёмыя», відаць, задаволілі яе патрэбу. Вярнулася адтуль, пацалавала Рамана ў вусны — скандал! — і пачала перапыняць прамоўцаў рэплікамі. Адзін выступіў і залішне «мыкаў: «мы - новы клас», «мы — гаспадары жыцця», «мы — адзіная сіла»...

Вераніка падхапілася.

— Увага, спадары і спадарыні! Хочаце, я скажу, хто вы?

— Давай, Вера! Давай! — закрычалі ад групы маладых, гэтыя добра яе ведалі.

— Вы — свінні! Во хто вы! Гаспадары! Смех.

На добрым падпіцці амаль усе былі, аднак змоўклі, толькі адзін нехта рагатнуў. Потым жанчыны абурана заенчылі. Колькі чалавек — афіцыйныя асобы — дэманстратыўна кінулі сурвэткі і падняліся.

Кін-Кіёнак падскочыў, даволі груба вывеў Вераніку з-за стала. Раман пачуў, як ён прашыпеў па-змяінаму:

— Ты ў мяне крывавымі слязамі зальешся, падла!

---

Харэаграфія

# ДОБРАЯ ЭНЕРГІЯ «ХАРОШАК»

***Адкрыў свой 20-ты сезон Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль «Харошкі» пад кіраўніцтвам Валянціны Гаявой. У канцэрце на сцэне рэспубліканскай філармоніі калектыў, як і заўсёды, паказаў новы ўзровень свайго мастацтва. І для гэтага неабавязкова было рыхтаваць новую праграму. Дастаткова яшчэ раз адпрацаваць лепшыя харэаграфічныя кампазіцыі і падаць іх па-новаму. Дасягаецца гэта вялікай працай /бясконцыя рэпетыцыі/ і прафесіяналізмам. І, зразумела, патрэбныя высокая культура, густ і творчы падыход.***



Творчы момант заўсёды прысутнічае ў працы ансамбля. Гэта ўжо відаць з таго, як складзена праграма. Гэта сапраўдны спектакль, скампанаваны з яркіх, непаўторных нумароў.

Сваё выступленне «Харошкі» пачалі з новай харэаграфічнай кампазіцыі «Добры вечар» і «Мітусь» на тэму Калядных святак. Яскравы, вясёлы танец як бы сімвалізаваў іскрыстасць, шчодрасць самога свята Каляддаў. Можна сказаць, што падрыхтаваны сапраўды годны нумар да 20-гадовага юбілею, які мае спраўляцца гэтай зімой.

Уразіла кампазіцыя «Перапёлачкі». Касцюмы, танцы нагадвалі славянскія матывы даўніх, яшчэ паганскіх часоў, калі ў купальскую ноч панавалі весялосць і каханне. Кадрыля і наступны танец глядзеліся зграбна і дынамічна. Адчувалася сіла і прыгажосць маладосці, яе прага да жыцця і дзейнасці. Вельмі каларытны «Шлюбны вальс». Нацыянальнае адзенне, асаблівасці танца і музыкі выявілі яшчэ адну яркую рысу беларускага фальклору.

«Местачковы вальс» — гэта спектакль характараў, кожны з якіх яркі й выразны. Гэта і хвацкі гусар з сваёй «дамай сэрца». Гэта і цудоўная мяшчанская парачка: коцік ды кошачка лашчаць адно аднаго. Гэта і самаўпэўнены чыноўнік з крыху нахабнымі і фанабэрыстымі адносінамі да сваёй дамы. Гэта і нервовы гімназіст са сваім надрыўным праяўленнем рамантычнага кахання. Галерэю характараў завяршае весялун-местачковец са сваімі любоўнымі прыгодамі. Словам, перад намі — адзін дзень з жыцця звычайнай правінцыі. І ўсё гэта паказана з лёгкай ironіяй і з любоўю да кожнага персанажа.

І зусім неверагодны танец з гармонікам! Патрэбны незвычайнае ўменне і майстэрства, каб адначасова станьчыць і сыграць на гармоніку. У танцы «Пава», дзякуючы яркім колерам, цікавай харэаграфіі і артыстызму выканаўцаў, атрымаўся жывы вобраз. Таленавіта падкрэслены ўсе асаблівасці паводзін гэтай птушкі.

Віртуозным было музычнае суправаджэнне. Зладжанасць і майстэрства музыкантаў злівалася ў адно з харэаграфічным дзеяннем. Усё гэта ярка выявілася ў фінале канцэрта: сапраўдны феерверк колераў, музыкі, танца, радасці, свята! Моцны эмацыянальны зарад артыстаў перадаваўся гледачам.

Кожны нумар складаўся не з набора харэаграфічных прыёмаў: абавязкова ў кожным з іх гучала пэўная тэма, афарбаваная ў сваю інтанацыю — гарэзлівую ці лірычную. Адчувалася фантазія і творчы падыход у стварэнні жывых карцін, выкананых у музыцы і танцы.

На канцэртах «Харошак» — заўсёды поўная зала. І справа не ў тым, што іншаземцам падабаецца экзотыка, а нашаму звычайнаму гледачу — відовішча. Хаця і гэта патрэбна для цікавага канцэрта. Розныя бываюць відовішчы. Адно — дзікае, для стадыёнаў, з абуджэннем адпаведных інстынктаў. Другое — прыгожае, яскрава-эмацыянальнае, напоўненае добрай энергіяй. Такую добрую энергію нясе кожнае выступленне «Харошак».

Канцэрты ансамбля заўсёды цікава глядзець і слухаць яшчэ й таму, што і праграма, і тэмы харэаграфічных кампазіцый і дасканала прадуманыя, і прафесійна выкананыя. Не выключэнне — і той канцэрт 3 кастрычніка. Розныя харэаграфічныя тэмы змянялі адна адну, іскрыстасць чаргавалася з пранікнёнай лірыкай, дынамізм — з драматычным дзеяннем. І калі такое па сілах харэаграфічнаму калектыву, то гэта ўжо з'ява высокага ўзроўню.

Узроўню такога можна дасягнуць дзякуючы высокаму прафесіяналізму і майстэрству, але гэтага недастаткова. Патрэбна духоўнасць, карані якой у нацыянальнай свядомасці і грунтоўнай традыцыйнасці. У традыцыйнасці ёсць вялікі патэнцыял, захаваны ў глыбіні народнай творчасці. І калі йсці да гэтых глыбіняў, дык заўсёды можна знайсці новыя творчыя магчымасці. Як гэта і робіць мастацкі кіраўнік ансамбля «Харошкі» народная артыстка Беларусі В. Гаявая. І неабавязкова шукаць авангардныя прыёмы. Дастаткова ўзяць фальклорны матэрыял, зразумець яго, адчуць, уявіць асаблівасці — і можна ствараць свабодна і цікава. Праўда, калі ёсць талент, які засцеражэ ў гэтай свабодзе ад разбэшчанасці, пошласці або фальшы.

Яшчэ вельмі важная якасць калектыву — добрасумленнасць. У гледача няма адчування, што артысты стомленыя, што ў іх адно жаданне — проста «адбыць» на сцэне. Вядома, што добрасумленнае выступленне вымагае вялікіх фізічных і эмацыянальных сіл. І здаецца, што ў «Харошак» гэтыя сілы невычэрпныя. Глядач ніколі не заўважыць стомленасці, і як вынік — абыякавасці ў працы. І дай Бог сілы «Харошкам» надалей, каб жыло Беларускае мастацтва.

**Аляксандр МУХІН,**
**аспірант БДУ**

---

Выставы

# ДЗЕЦІ МАЛЮЮЦЬ АНЁЛАЎ

Дом работнікаў мастацтваў на праспекце Скарыны — своеасаблівая мадэль свету чалавечай свядомасці, са сваёй касмагоніяй, багамі і героямі. Першы паверх асацыіруецца з ніжэйшым светам зямных страсцей і жаданняў. Ён аддадзены пад рэстаран і бар, адсюль выходзіць цыгарэтны дым і адпаведная музыка. На другім паверсе — выставачная зала, якая прымае розныя выстаўкі-продажы, аўкцыёны. Тут пануе дух бізнесменаў, прадпрымальнікаў, уключаючы сферу мастацтва. Трэці і апошні паверх самы ўзвышаны, светлы, бо тут час ад часу праводзяцца сустрэчы людзей, якія вераць у бога, выступаюць прапаведнікі розных рэлігійных канфесій. З 28 верасня па 8 кастрычніка тут праходзіла выстаўка дзіцячай хрысціянскай творчасці. У яе экспазіцыі былі работы з музея дзіцячай творчасці Санкт-Пецярбурга, творы выхаванцаў Мінскай іканапіснай школы пры саборах Святога Духа, Пятра і Паўла, а таксама малюнкі, вырабы з гліны дзяцей Мінскага Палаца моладзі.

Чысты, незамутнёны «дарослымі» праблемамі ўнутраны свет дзіцяці, яго дзівосная здольнасць успрымаць свет хутчэй сэрцам чым розумам, знайшлі сваё адлюстраванне ў экспазіцыі. Некаторыя работы настолькі натхнёныя, непасрэдныя і сур'ёзныя, што, здаецца, адчуваеш прамую лучнасць іх стваральнікаў з вышэйшым светам. Мне ўдалося пагутарыць з дырэктарам Музея дзіцячай творчасці Санкт-Пецярбурга Вікторыяй Сцяпанаўнай Жогінай. Яна расказала, што ідэя стварэння падобнага музея прыйшла да яе пасля прачытання кнігі Жанны Агаміран «Дзіцячая карцінная галерэя. /Ерэванскі вопыт работы з дзецьмі/». Цікава, што ў фондах музея не толькі малюнкі дзяцей, але таксама ноты створанай імі музыкі, літаратурная творчасць. У музеі вядзецца навуковае вывучэнне псіхалогіі дзіцячай творчасці, а ў 1991 годзе калекцыю папоўнілі малюнкі з аб'яўленага конкурсу «Дзеці Расіі ў пошуках Бога». На выстаўцы паказана частка работ з гэтага конкурсу.

«Анёл» Машы Забелінай /5 гадоў/ ляціць у чорным небе сярод блакітных падаючых зорак. Ён вельмі выразны па колеравых плямах, малюнку, кампазіцыі. У анёла труба. Ён прыставіў яе да вуха, нібы прыслухоўваючыся да зямных спраў. У кожнай дзіцячай працы свая адметнасць, якую можна назваць індывідуальнасцю. Паўсюль адчуваецца рука першаадкрывальніка.

Упрыгожаннем экспазіцыі стала кераміка студыі з Палаца моладзі. Вясёлы гліняны гарадок з забаўнымі, вельмі жывымі фігуркамі асабліва прывабліві дзецям. Гліняныя званочкі нават звіняць як іх «старэйшыя браты» — званы. Увогуле, тут усё сапраўднае, і перш за ўсё радасць творчасці.

У выяўленні дзецьмі сцэн са Святога пісання праглядваюцца ўмоўна два падыходы: свецкі і рэлігійны. Да другога можна аднесці работы выхаванцаў дзіцячай іканапіснай школы пры саборах Св. Духа і Пятра і Паўла. Уплыў іканапісу на дзіцячую свядомасць безумоўны. Традыцыі іконы вывучаюцца праз капіраванне лепшых узораў і патрабуюць ад дзіцяці вялікіх намаганняў. Таму даволі вялікі працэнт «цякучасці кадраў» у студыі, нягледзячы на тое, што жадаючыя набіраюцца з нядзельных школ. Недахоп майстэрства папаўняецца эмацыянальнасцю, адухоўленасцю вобразаў.

Выстаўка прадэманстравала і рэальны стан, рэальныя праблемы дзіцячай творчасці на Беларусі. Работа з дзецьмі вядзецца вялікая, але ўсё гэта разрозненае. Відаць, настаў час «збіраць камяні», а дакладней, тыя зярняты найбагатага вопыту, які ёсць у розных эстэтычных цэнтрах, палацах культуры, школах. Вопыт Санкт-Пецярбурга паказвае накірунак для энтузіястаў дзіцячай творчасці, надае ўпэўненасці тым, хто сумняваецца. Выстаўка сведчыць пра добрую базу для музея дзіцячай творчасці ў нас, у Мінску. Праблема ў адным — патрэбны людзі, здольныя стварыць такі музей, патрэбна сапраўдная апантанасць, якая пераадольвае любыя перашкоды. А пакуль дарослыя высняюць для сябе азбучныя ісціны, дзеці малююць анёлаў, Хрыста, Панну Марыю і ўсё, што бачаць вакол сябе. Няўжо гэтыя пярліны кануць у Лету?

**Ігар ПЯРЭРВА**

Ліст з Бельгіі

***Многія з нашых суайчыннікаў скарысталі нагоду І З'езда беларусаў свету, каб сустрэцца з роднымі, прайсціся дзіцячымі сцежкамі. У іх ліку і Янка Жучка, што даслаў нам з Бельгіі, з г. Більбордэ, свае ўражанні пра наведванне радзімы.***

***Спадар Янка не літаратар і не філолаг, ён інжынер па адукацыі, таму не будзем строгімі да манеры і стылю яго пісьма. Для нас каштоўней непасрэднасць ўспрымання і ўражанняў, увесь спектр адчуванняў чалавека, што праз паўстагоддзе ступае на родную зямлю.***

***Тэкст друкуецца сучасным правапісам, аднак з захаваннем асаблівасцей мовы аўтара.***

# НЕЛЬГА ВЫКАЗАЦЬ СЛОВАМІ...

Адам Міцкевіч, вялікі польскі паэт /беларускага паходжання/, пачынае сваю славутую паэму «Пан Тадэвуш» наступнымі словамі:

**«Літва! Бацькоўскі край, ты яе здароўе тое:**
**Не цэнім, маючы, а страцім залатое —**
**Шкада, як і красы твае, мой родны краю.**
**Тугою па табе тут вобраз твой ст募раю».**

Як і сотні тысяч нашых суайчыннікаў, я меў вельмі сумны прывілей спазнаць на практыцы, як трэба кахаць родную старонку пасля таго, як яе страціў...

І вось я зноў, пасля амаль пяцідзесяцігадовае адсутнасці, маю нагоду вітаць сваю дарагую маці-Беларусь. Гэта для мяне больш як сон. Калі б некалькі гадоў таму мне сказалі, што такі сон будзе рэальнасцю, дык нізавошта не паверыў бы. Але ж выглядае, што я памыляўся. Я зноў ступіў нагою на родную зямельку.

Прызнаюся, што ступіў на яе паўпрытомным. Калі ляцеў самалётам з Вены ў Менск, калі абвясцілі, што мы ўжо над Беларуссю, мне пачалі мроіцца дзіўныя віды: нейкія асобы ставяць мне розныя пытанні. Я іх вельмі добра бачу, пытанні іхнія разумею, але адначасна поўнасцю сведамы, што гэта — «міраж», з'ява мае падсвядомасці. Каб быць упэўненым, я звяртаюся да майго прыяцеля-земляка і спадарожніка Алёшы Арэшкі: слухай, кажу яму, ці бачыў ты людзей, якія да мяне звярталіся? Ды што ты, адказвае ён, нікога тут не было, пабач — самалёт паўпусты. Я проста стаў пабойвацца, каб не страціць памяць, каб не звар'яцець... На шчасце, сцюардэса раздала нам бланкі і папрасіла запоўніць іх перад прызямленнем у Менску. Бланкі былі на нямецкай мове, магчыма, гэта мяне адвяло ад маіх падсведамых уяўленняў.

Шкадую вельмі, што, заняты запаўненнем бланкаў, я празяваў паглядзець на краявід Менска зверху. Заўважыў толькі, як самалёт крануўся зямлі, крыху страсануў і паволі пасунуўся на назначанае яму месца, дзе чакаў нас аўтобус, які падвозіў да пагранічнага і мытнага будынка. Тут, акрамя маленькага інцыдэнту, прайшло ўсё добра.

Той маленькі інцыдэнт заключаўся ў наступным: так як мы /мой прыяцель Алёша Арэшка і я/ не мелі візаў, бо ў Брусэлі да гэтага часу няма беларускага пасольства, дык візу нам меліся даць на аэрадроме. Пагранічнік ва уніформе, разглядаючы мае паперы /пашпарт і запрасіны/, звяртаецца да мяне на расейскай мове з пытаннем, калі я апошнім разам быў на Беларусі. Я адказваю, што ад паловы 1944 года я на Беларусі ні разу не быў. «Што вы кажаце!» — з вялікім здзіўленнем глядзіць ён на мяне і дадае: «Дык гэта ж амаль 50 год таму назад!» Ён кліча свайго калегу і кажа яму: «Ты бачыш перад сабою чалавека, што першы раз прыязджае на Беларусь пасля амаль пяцідзесяцігадовае адсутнасці, ды так добра па-беларуску гутарыць». Пасля прыходзіць пагранічнік у рангу афіцэра, ставіць мне ў пашпарце візу і заяўляе, што я маю заплаціць 60 амерыканскіх даляраў. Я яму адказваю, што да маіх запросінаў далучаны ліст, у якім сказана, што візу мне выдадуць бясплатна. Каб даказаць праўнасць майго сцверджання, дастаю папку з карэспандэнцыяй, якую я вёў са спадаром Лецкам, і паказваю той ліст. Збянтэжаны ўрадавец кліча свайго калегу. Той жа, у сваю чаргу, таксама не ў курсе справы, ветліва просіць даць яму на пару хвілін маю папку.

Зразумелая рэч, не было іншага выхаду, як даць яму вышэйўспомненую папку. На жаль, абяцаных «пару хвілін» занялі больш за гадзіну. Куды той афіцэр хадзіў з маёй папкай і што з ёю там рабілі, для мяне да гэтага часу засталося тайнай. Ва ўсякім выпадку, ён вярнуўся з папкай і ўрачыста заявіў свайму калегу, што на гэтага тыпу запросіны візы павінны выдавацца бясплатна. Як кажуць, усё добра, што добра канчаецца. Праўда, пляменніца з ейным мужыком, якія прыехалі мяне спатыкаць, вельмі пахваляваліся. Бедная Наташка, яна аббегала ўсе паверхі аэрадромнага будынка, шукаючы мяне!..

І вось мае першыя крокі па маёй роднай, так доўга адсутнай Беларусі. Сказаць папраўдзе /ды, зрэшты, я ўжо раней казаў/, я так быў ашаломлены, што не мог нічога канкрэтна заўважыць, што дзеецца вакол мяне. На розныя пытанні, што мне ставяць, абяцаю адказаць пазней. Спадарыня В. Трыгубовіч, старшыня камісіі па замежных сувязях БНФ «Адраджэнне», прадстаўляе мне цэлую праграму падзеяў, якія адбудуцца ў Менску перад з'ездам, але я проста выбачыўся перад ёю і папрасіў, каб скантактавацца заўтра і пры «цвярозым розуме». Мы едзем у кірунку горада Менска — сталіцы мае дарагое Бацькаўшчыны. Горад гэты я буду бачыць упершыню. А цяпер вернемся да пачатку, ці лепш — пару слоў, якім чынам я трапіў на Беларусь.

Пачалося гэта з запланаванага І З'езда беларусаў свету, арганізаванага ЗБС «Бацькаўшчына». Спадар Лецка, старшыня гэтага згуртавання, спаткаўшыся з маім сынам, які ў мінулым годзе браў удзел у Міжнароднай школе беларусістаў, перадаў мне праз яго ліст. Пазней я атрымаў ад яго статут «Бацькаўшчыны», паведамленне аб ідэі склікаць І З'езд беларусаў свету. Ідэя гэтая мяне моцна зацікавіла, і я пастанавіў выкарыстаць нагоду, каб, беручы ўдзел у з'ездзе, зведаць родныя мясціны і пабачыць родных і знаёмых.

Аднак запланаваныя два тыдні — гэта менш як мінімум. У Менску, дзе была мая першая затрымка ў пляменніцы, я правёў першы тыдзень проста «бягом». Няўтомная мая пляменніца Наташа і ейны мужык Вася бегалі з аднаго кутка Менска ў другі, паказваючы мне ўсе цікавасці, усё, што варта было ўвагі. Сюды прыбыла таксама з Талочына, з вобласці слаўнага горада Віцебска, пляменніца Вера са сваёю дачкою.

Зведаўшы павярхоўна Менск, думаючы, што яшчэ буду мець нагоду пабачыць сёе-тое падчас з'езда, еду ў родную вёску. Цэлая экспедыцыя: Наташа з двума дзецьмі, аграмадны багаж, ну і я да таго. Грузімся ў аўтобус з загадзя рэзерваванымі месцамі, кароткае развітанне з Васем, які, на жаль, мусіць працаваць, і рухаем...

Едзем спачатку праз Менск, пасля праз ягоныя пакрытыя зеленню ваколіцы. Праязджаем праз Дзяржынск, Стоўбцы, Нясвіж, Клецак і прыязджаем у Сіняўку /па-тутэйшаму завуць яе Сінёўка/. Ну і што ж? Абсалютна нічога не пазнаю! Усё перамянілася, быццам я тут ніколі не быў і не бачыў гэтых мясцінаў! Перамянілася, але як, у якім кірунку? Гледзячы пяцьдзесят гадоў таму назад, дык у пазітыўным, але, маючы на ўвазе прагрэс тэхналогіі, узровень жыцця, дык, я сказаў бы, не рушыла наперад ні на крок. На самай справе, пабудовы хаатычныя, без ніякага густу з архітэктурнага пункту гледжання.

У Сіняўцы нас спатыкаюць мая сястра Маня /ад другое мамы/, якую я пакінуў, калі ёй было чатыры гадкі, пляменніца Геня з дзецьмі Ігарам і Ліліяй, якіх я ўпершыню ў маім жыцці спатыкаю. Спатыкаюць брата, дзядзьку і ўжо дзеда з-за граніцы. Усе з вялікай эмоцыяй абдымаюць і цалуюць, мочачы слязьмі, якіх нельга стрымаць таксама і з майго боку.

Тут ёсць толькі маленькі перапынак, проста — перасядка. Далейшае падарожжа да мае роднае вёскі адбываецца прыватным транспартам: на маленькім трактарчыку, які ёсць прыватнасцю майго швагра Івана, што жыве ў Лучычах. Мы загружаем увесь наш багаж і самі запакоўваемся ў маленькі прычэп і памаленьку, з падтрoскай, рухаемся наперад. Трактарчык вядзе Ігар, з максімальнай хуткасцю прыблізна 10 км/г. Едзем дарогаю, якую калісь я таптаў сюды-туды, нягледзячы на надвор'е. Тут таксама нічога, на жаль, не пазнаю. Акрамя пары хатаў, якія засталіся на тым самым месцы і сёння амаль поўнасцю ўлезлі ў зямлю, усё іншае змянілася.

Дык вось, праязджаем праз Нарэшавічы, Казённую Слабаду і даязджаем у маю родную вёску Лучычы /якую сёння чамусьці завуць Лучыцы/. Сэрца маё пачынае біцца мацнейшым рытмам. Бачу здалёку вёску з хатамі ў зелені, але не на тым самым месцы, дзе я іх бачыў у маім дзяцінстве. Зразумелая рэч, была калектывізацыя і ўсе хутары сагналі ў адно месца — у вёску. «Вось направа, — кажа мне пляменніца, — хата Дэні» /майго найлепшага сябра маладых гадоў/. Ён сам стаіць і чакае нашага даезду, напэўна, на спатканне выйшаў. Калі мы раўняемся, бачу чалавека дарослага веку, у поўнай сіле і добрым здароўі, які падыходзіць да нашага экіпажа, здымае шапку і ўрачыста вітае мяне з прыездам у родную вёску. З эмоцыі і з нечаканасці я проста не магу знайсці слоў на ягоныя прывітанні. Абдымаемся і, развітваючыся, абяцаем адзін аднаму, што хутка спаткаемся і пагутарым больш грунтоўна.

І вось я прыехаў у родную вёску, да свае роднае й дарагое сястры. Першае ўражанне, працёршы крыху слёзы, вельмі прыемнае: хатка поўнасцю ў зелені, акружаная агародам з малінамі, парэчкамі, чарэшнямі, яблынямі і іншым. Для мяне, што жыве ў краіне, дзе згушчанасць насельніцтва ў 15 разоў большая, чым на Беларусі, гэта рай. Справа, аднак, пагаршаецца, калі даходзім да камфорту й гігіены: я сказаў бы, што ў гэтай галіне ніякага прагрэсу не адбылося. Не прайшло і паўгадзіны, як амаль уся вёска мяне прывітала. Сумна было бачыць людзей, якія мяне віталі, а я іх не пазнаваў. Што ж, за 50 гадоў чалавек мяняецца... Я ў сваю чаргу пытаю, ці яны мяне пазнаюць? Адказ той самы: не! Дык, значыць, мы ў разліку: я не пазнаю іх, а яны — мяне...

Прыняццё ў сястры надзвычайнае, зрэшты — беларускае: чым хата багата, тым і рада. Але мне здаецца, што гэтая прыказка нат заскупая, бо на самай справе беларускае прыняццё — больш чым багатае.

На жаль, гэтае прыняццё было прыціснута вялікім для нас сумам: на ім быў адсутны мой брат Коля, які жыў на Урале. Ён быў паведамлены аб маім прыездзе і збіраўся прыехаць на спатканне. І вось — трагедыя! Коратка перад маім прыездам паведамілі, што ён трагічна загінуў. Што азначае «трагічна», я да сёння адказу не атрымаў...

Другі мой, наймалодшы брат Генюсь, які жыве дзесь у Цюмені, прыбыў на спатканне, хоць падарожжа трывала яму аж чатыры дні. Ён таксама толькі тут даведаўся аб трагічнай смерці нашага брата. Я быў вельмі рад бачыць яго, бо ён наймалодшы ад нас усіх, і пасля смерці нашае мамы я яго ўзгадоўваў — яму было тады толькі два годзікі.

Пераначаваўшы ноч, прапануе мне пляменніца Геня пайсці пабачыць хату, дзе я нарадзіўся і правёў гады майго дзяцінства. Ідзём праз поле, навакол жыта і перад намі лес. Лес здалёку, здавалася б, той самы, што і ў той час, калі я там маленькім хлапчуком пасвіў каровы. Аказалася, што не. З'явілася цёмная хмара, пачало грымець. Бегам мы мчаліся да лесу, каб схавацца ад дажджу, які пачынаў ужо крапаць. І вось тут я толькі заўважыў, што гэта не быў той самы лес. Калісь я мог бы праседзець цэлы дзень пад елкай, ні адна кропелька на мяне не ўпала б. А цяпер, як праз рэшата, паваліў на нас дождж і град. Я ўжо не так баяўся за сябе, як за маленькіх дзяўчатак, якія хіліліся адна да другой — не так ад дажджу, як ад халоднага граду. Але навальніца доўга не трывала, і мы памчаліся дамоў — у хату да мае сястры. Я быў перакананы, што скончыцца гэта добрай прастудай.

Вярнуўшыся дахаты, усе мы мусілі добра высушыцца і пераадзецца, да таго ж я папрасіў добрую чарку самагону, хоць дасюль устрымліваўся ад гэтага напітку. Назаўтра — о, дзіва! Мы ўсе былі ў надзвычайным здароўі — ніхто нават не чхнуў! Адно шкадаваў: тое месца, дзе стаяла калісь хата маіх бацькоў, пабачыў толькі здалёку.

Назаўтра пагода была надзвычайная, і мае пляменніцы прапанавалі наведаць Савэйкі. Савэйкі — гэта колішні маёнтак памешчыка Навіцкага. Будучы малым, за польскім часам, я хадзіў туды зрываць яблыкі. Плацілі нам тады каля 50 грошай на дзень. Яшчэ што засталося ў памяці з гэтага маёнтку — штогодняе паляванне, якое памешчык Навіцкі наладжваў для сваіх замежных гасцей. Прыязджалі сюды госці з Нямеччыны, з Англьшчыны, з Францыі і хто ведае яшчэ адкуль.

Гэты маёнтак, дзе калісь піравалі госці Навіцкага, быў пераменены ў «дом отдыха». Цяпер там нейкі ўчастковы шпіталь.

Астатні час майго побыту ў роднай вёсцы заключаўся ў зведванні маіх колішніх знаёмых і сяброў, а таксама ў наведанні мае сястры Мані ды яшчэ адзінае мае цёткі Волі, сястры маткі. Тут таксама прыняцці надзвычайныя, трудна апісаць: з аднаго стала да другога і кожны, як усюды, перагружаны і пры кожным, як усюды, паганяюць, каб еў і асабліва каб піў.

Мілая мая цётачка! Старэнькая, шчупленькая, як пушынка, амаль аслепшая, але мяне вельмі добра пазнае і памятае. Плачучы, абдымае і ўспамінае маю матку, якую я страціў у малым веку: «Янaчка, мой любенькі, твая мама калісь разам са мною спаткалася з адной цыганкай-варожкай. Яна прычапілася да нас, каб паваражыць, каб прадказаць нам нашую будучыню. Спачатку мы не згаджаліся, а пасля твая мама згадзілася за нейкі дзесятак яек. І вось што яна тваёй маме сказала: «Ты маеш шмат дзяцей, і адзін сын твой не будзе есці твой хлеб». «Дык што ж, — пытае твая мама ў яе, — ён пойдзе жабраваць?» «Ды не, — адказвае варожка, — ён будзе жыць у іншым гасударстве, і будзе вельмі заможна жыць». «Дык вось, міленькі мой, — прадаўжае мая цётка, — прадказанні тае варожкі споўніліся».

Наведаў я і помнік мае мамы, якая пахавана ў 1937 годзе на сіняўскім могільніку. Гэта было маё першае зведванне ейнае магілкі, бо пасля яе смерці, з розных прычынаў, я не меў нагоды выканаць свайго абавязку.

Трудна перадаць маё пачуццё, калі я ўбачыў гэтую магілку. Сэрца моцна сціснулася, асабліва калі прачытаў надпіс на ёй: «Жыла 32 гады». Маланкава праляцела ў маіх думках усё, што я аб ёй ведаў. А ведаў даволі мала, бо быў зусім малым падросткам, калі яна памерла. Была яна для мяне залатою мамай! Маючы толькі вясковую самаадукацыю, яна мяне навучыла ўсім малітвам, якія я на памяць мусіў казаць на ўроках рэлігіі. Яна таксама мяне навучыла славянскаму альфабэту, на якім тыя малітвы былі напісаны. Магчыма, што гэта якраз ейная кульмінацыйная заслуга — усё тое, чаго я сёння дасягнуў. Гісторыя вельмі простая, але не менш для мяне важная. Вось яна. Скончыў чатыры класы ў Казённай Слабадзе. Каб прадаўжаць далей навуку, мне трэба было ісці ў Сіняўскую сямікласную школу. Каб паступіць туды ў пяты клас, трэба было здаваць экзамены. Але так як узровень нашае вясковае школы быў вельмі нізкі, да ўсяго ніякае падрыхтоўкі да гэтых экзаменаў не было, дык я іх на выдатна праваліў. Ну і што ж? Прыходжу расплаканы дамоў, з сумнай думкай, што скончыліся мае мары прадаўжаць навуку — трэба будзе працаваць з бацькам на бедненькім кавалачку зямлі. Правал мой упаў маёй маме на сэрца цяжэй, чымся мне: яна мяне лепш бачыла за кніжкай, чымся за плугам.

І вось яна, даведаўшыся, што прыязджае ў Сіняўскую школу інспектар, бяжыць бягом туды й просіць ласкі ў інспектара, каб мяне прынялі ў школу. Той звяртаецца да дырэктара і высвятляе, што я праваліў экзамены ў пяты клас. Зусім лагічна ён прапануе прыняць мяне ў чацвёрты.

Такім вось чынам, дзякуючы маёй дарагой нябожчыцы маме, я змог, хоць і страціўшы год, прадаўжаць навуку аж да атрымання дыплома інжынера-канструктара на Лювэнскім універсітэце ў Бельгіі.

На гэтым магільніку я таксама зведаў магілкі мае мачахі й ейнае дачкі Галі. Галя мела няшчасце быць маленькай у цяжкія гады праклятай вайны і пасля яе: бацьку прысудзілі на 25 год цяжкіх работ, усю маёмасць канфіскавалі, і вось у такіх умовах мама /мая мачаха/ мусіла ўзгадоўваць вялікую сям'ю, у тым ліку й наймалодшую Галю. Зразумелая рэч — гэта дрэнна адбілася на ейным здароўі і таму яна ў маладым веку памерла.

У нядзелю чацвёртага ліпеня я маю вяртацца ў Менск, бо ў панядзелак пачынаецца I З'езд беларусаў свету. Грузімся зноў на слаўны трактарчык. Я развітваюся з сястрой Валяй і маленькімі Волькай, Лількай і Яначкам, і мы рухаемся ў кірунку Сіняўкі. Як толькі выехалі на вуліцу, мне аж дух заняло! Цэлая вёска на вуліцы. Кожны хоча развітацца і часам даць нейкі падарунак на ўспамін. Усе жадаюць шчаслівага павароту і зноў хутка прыязджаць у Лучычы. Я ніколі не ўяўляў сабе, што мяне тут так горача прымуць і так урачыста правядуць.

Аўтобус прыбыў у час, і я, пасля кароткага і ўзрушанага развітання, з усімі маімі пакункамі ўпіхаюся ў яго. Крычу ўсім: «Бывайце!» і абяцаю хутка прыехаць зноў, бо дарогу ўжо добра знаю.

І вось я зноў у Менску. У панядзелак 5 ліпеня еду ў гатэль «Беларусь» на рэгістрацыю. Тут спатыкаю шмат знаёмых з цэлага свету, асабліва з ЗША і Канады: калегі з беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, калегі з Лювэнскага універсітэта ў Бельгіі, сябры са скаўцкай арганізацыі на чужыне і г. д. Усё гэта — так нечакана й так цудоўна, што трэба быць вялікім спецыялістам, каб усё дасканала апісаць.

Аб прабегу з'езда пісаць, думаю, будзе залішне, бо ўжо аб ім шмат пісалася ды, напэўна, будзе яшчэ пісацца ў розных газетах і часопісах.

Апошні развітальны абед быў у панядзелак, пасля якога мы, г. зн. Наташа, Вася і маленькі Яначка, паехалі на аэрадром Менск-2.

На аэрадроме атмасфера была даволі сумная. Шкада, што тут не так, як на іншых інтэрнацыянальных аэрадромах: здаў багаж, зарэгістраваўся і можаш да апошняе хвіліны перад адлётам самалёта спакойна правесці час. Тут не так: тут як здаў багаж, дык і сам з ім...

Ветліва пытае мяне мытны ўрадавец, ці я гавару па-расейску /магчыма, таму, што мой пашпарт — бельгійскі/. Адказваю, што, на жаль, не, але па-беларуску вельмі добра. «Дык гэта яшчэ лепш», — кажа ён і пытае, як доўга жыву ў Бельгіі. Пачуўшы адказ, ён на чыстай беларускай мове заўважае: «Так доўга жывучы за межамі Радзімы, вы так прыгожа гутарыце па-беларуску».

Да Бруселя даляцелі без ніякіх прыгодаў, хоць, праўда, у Вене прыйшлося даволі доўга чакаць на спалучэнне.

У заключэнне хачу выказаць маленькія заўвагі й ўражанні з майго кароткага побыту на роднай Беларусі.

Перш за ўсё, як ужо падкрэсліў вышэй, пасля доўгай адсутнасці паварот /праўда, кароценькі/ мой на Бацькаўшчыну быў проста чароўны. Пачуцца зноў на сваёй роднай зямельцы, пабачыць ейныя цудоўныя краявіды, зноў спаткацца з роднымі, са знаёмымі і сябрамі дзяцінства — гэта тое, чаго нельга выказаць у словах, — трэба перажыць і адчуць асабіста.

Што негатыўна ўрэзалася мне ў памяць падчас майго пабыту ў Менску? У першую чаргу — вялікая адсутнасць беларускае мовы. За ўвесь час я, магчыма, два разы пачуў гутарку на нашай мове. Калі мы з роднымі гутарылі па-беларуску, дык людзі прыслухоўваліся і часта пыталіся са здзіўленнем, адкуль мы яе так добра знаем, адкуль я сам. Як быццам беларуская мова існуе толькі за граніцаю! Часам здавалася, быццам знаходжуся не ў сваім родным краі, не на сваёй роднай Беларусі. Думаю і ўпэўнены, што сітуацыя гэтая зменіцца, што наш народ урэшце зразумее, што яго падманвалі ўва ўсім, што тычыцца нашае мовы, культуры і гісторыі.

Многа мог бы яшчэ сказаць негатыўнага пра архітэктуру горада Менска, асабліва нерацыянальную пабудову жылых дамоў. Тут заўважаецца пабудова, планаваная на сацыялістычны капыл. Трэба спадзявацца, што будучыя архітэктары папраўяць гэтую памылку, зробяць з Менска найпрыгажэйшую сталіцу свету. А праз яе, як ні праз ніякую іншую сталіцу, плыве, як змейка, рака Свіслач. Здаецца, што ад яе нельга ўцячы: яна й злева, яна й справа, яна й спераду, яна й ззаду...

Упэўнены, што горад Менск, як уся наша дарагая Беларусь, можа прывабіць мільёны турыстаў, калі ўсё будзе зроблена па-людску. А я ўпэўнены, што некалі так будзе.

**Янка ЖУЧКА**

*Думка чытача*

# КРЫХУ АБ ГОРКАЙ СВАБОДЗЕ

Сёння наша бяздарнае і шалапутнае жыццё выпрабоўвае апошняе людское цярпенне. На плечы простага, зацюканага чалавека з кожным божым днём кладзецца новы цяжар бядот і нястач.

Наша многапакутная і добрая беларуская зямелька стагнала і стогне ў роўнай меры як ад прыроднай кары, так і ад свайго ж, людскога рукатворнага зла. А яна ўсё вытрымала, усё сцярпела. Жыве мая Беларусь! І мы, яе верныя сыны і дочкі, бясконца любім гэтую зямлю-гаротніцу і так доўга і цяжка пакутуем разам з ёю.

Я — мікраскапічны асколачак вялікадзяржаўнай, вялікападманнай і трагічнай імперыі, якая на пацеху ўсяму цывілізаванаму свету скончыла свой век бяскроўным самагубствам. Няхай мне не гавораць, што нехта развaліў вялікі Савецкі Саюз. Волат на гліняных нагах упаў і развaліўся на кавалкі пры помачы ўласных рук, якія столькі гадоў капалі самі сабе яму.

Я быў сведкам разбойнай сілы і духоўнага бяссілля Вялікай Дзяржавы...

Я з таго пакалення, якое некалі плявала на Юдавы сярэбранікі, а прадавала Хрыста задарам: крышыла царкоўныя храмы, ламала крыжы, як магла здзекавалася з вернікаў...

Я з таго пакалення, якое за свой кароткі чалавечы век з галавы да ног вымакла ў крыві і поце...

Я з таго пакалення, якое доўгімі дзесяцігоддзямі цягнула бурлацкую лямку паднявольнага існавання. Сёння мы, дзеці той вар'яцкай эпохі, часам перабіраем спрацаванымі пальцамі свае франтавыя і мірныя ордэны ды медалі, якім цяпер нуль цана ў базарны дзень...

Я з таго пакалення, што верай і праўдай служыла дзяржаве, якой няма і, дзякуй Богу, не будзе...

Я, нарэшце, з таго пакалення, якое сёння прымервaецца да жабрацкіх торбаў на два плячы — крыж-накрыж...

Я з таго пакалення...

І мне ў гэты авантурны і злачынны час не сорамна за сваіх тагачасных паплечнікаў — ні за жывых, ні за мёртвых. Мы, як тыя старцы, пакорліва ішлі за сваімі камуністычнымі павадырамі па калдобістай дарозе немаведама куды...

У імя лжывай, бесчалавечнай бальшавіцкай ідэі мы прадавалі не толькі Хрыста, але і ўласных бацькоў. Не шкадавалі ні родных, ні блізкіх. І не наша віна, што мы апынуліся ў беспрасветным тупіку. Нас кінулі як сляпых кацянят на волю шалёнага, непрадказальнага лёсу. А той лёс круціць нас, бы тыя шчэпкі на цёмным і глыбокім віры, і не бачыцца нам светлай спакойнай плыні...

Цяпер мы настальгічна прыгадваем тыя гады, калі мелі запрацаваны кавалак хлеба і яшчэ нешта да хлеба. І былі шчаслівымі, бо лепшага ў сваім жыцці не зведалі. Нам ярка свяціла сонейка сталінскай Канстытуцыі. Свяціла, ды не грэла! Нам з малых гадоў да самай смерці, як штодзённую малітву, талдычылі, што савецкая Канстытуцыя самая дэмакратычная ў свеце, самая народная, самая, самая... А ў той «народнай» была ўзаконена процьма розных абавязкаў для савецкіх людзей і наабяцана такая ж процьма правоў. Толькі тыя правы заставаліся абяцанкамі-цацанкамі. За прыгожай і прывабнай канстытуцыйнай шырмай хавалася рабскае бяспраўе. Жылі і працавалі не па Канстытуцыі, а па ўказанні партыйнага стальнога кулака.

Нарэшце мы дачакаліся жаданай свабоды. Ужо сем гадоў, як з нашых намуляных каркаў упаў хамут камуністычнай дыктатуры. Але пасля вялікай радасці хутка наступіла вялікае расчараванне: свабода аказалася гарчэй палыну...

Якраз у час усенароднага перабудоўчага лікавання я напаткаў патомнага хлебароба, мудрага чалавека.

— Як вам падабаецца перабудова? — пытаюся. — Ці лягчэй дыхацца стала?

— А дзе ты, браце мой, тую перабудову бачыў? Адзін тандэт, а не перабудова. Калі, скажам, перасыпаюць хату, то найперш кладуць новы падмурак. А ў нас што выходзіць? Пачалі перасыпаць жыццё на гнілым савецкім падмурку. Ты паглядзі толькі, што робіцца! Пачынаючы з сельсавета і канчаючы Мінскам, усюды гаспадараць тыя ж самыя парцейцы, каторыя вялі нас да камунізму! Іх жа, браце ты мой, цэлая плойма, больш чым пры камуністычным рэжыме было! На дармавых і далікатных харчах яны плодзяцца, не раўнуючы, як блохі ў старым кажусе... Памянеш маё слова, Міхайлавіч, даб'юць яны нашу дзяржаву да ручкі...

Як у ваду глядзеў мой вясковы субяседнік: дабілі-такі! Што раскрадзена, што распрададзена, а што апошлена і аплявана. Суверэнную і Незалежную Рэспубліку на людскіх вачах абабралі да ніткі...

Нашы валадары за кошт голага, падманутага народа абагацілі сябе, сваіх дзяцей, родзічаў, фаварытаў, палітычных лакеяў і прастытутак.

Нахапаўшыся і наеўшыся да адвалу, кіруючая камуністычная рaць акрэпла, асмялела, вылезла з акопаў і пачала шалёную атаку супраць народнай дэмакратыі. У сляпой барацьбе за ўладу яны забыліся пра свой народ і яго надзённыя патрэбы.

На днях збярэцца чарговая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, на якой будзе вырашацца лёс новай Канстытуцыі. Не трэба быць палітолагам, каб зрабіць дакладны, гарантаваны прагноз: праект новай Канстытуцыі так і застанецца праектам. Камуністычнай большасці ў парламенце трэба ў першую чаргу неабмежаваная ўлада, а не Канстытуцыя. Учора камуністы ўхвалілі законы аб нацыянальнай сімволіцы і беларускай мове, а сёння здзекуюцца і з таго, і з другога. Учора яшчэ яны гаварылі аб праекце новай Канстытуцыі, а сёння ідуць у наступ за аднаўленне былой савецкай улады...

Дужа шырокае прадонне раздзяляе дзве няроўныя сілы ў нашым парламенце. Нават у тым выпадку, калі б камуністы ў нейкай меры і «паступіліся б сваімі прынцыпамі», то і тады было б мала радасці. Справа ў тым, што праект новай Канстытуцыі нацэлены ў сваёй аснове на савецкі дзяржаўны цэнтралізм. Па сутнасці, Вярхоўнаму Савету і нам з вамі прапаноўваецца старая, латаная і пералатаная савецкая Канстытуцыя, скупа прыпраўленая даволі сціплымі дэмакратычнымі заваёвамі.

Зноў Саветы, зноў тая ж славутая лесвіца знізу ўгору!

Паспрабуй пры такім вертыкальным канвееры паскардзіцца на незаконныя дзеянні мясцовага Савета! Цябе будуць чакаць бясконцыя блуканні па нетрах чыноўных кабінетаў, зацяглыя адпіскі-перапіскі.

Мы гэта перажылі, мы гэта добра ведаем. Нам прапаноўваюць падхарошаны камуфляж былога, тройчы праклятага, савецкага бюракратызму.

У сапраўды дэмакратычных краінах скаргі і канфліктныя сітуацыі вырашае незалежны суд. Строга прытрымліваючыся літары закона, ён не стане адбельваць чыноўныя мундзіры і ратаваць іх забруджаную чэсць. Але такое нам толькі сніцца...

А вось сённяшняя наша ява не можа не трывожыць. Камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце, кіруючая эліта Савета Міністраў ужо даўно за плячыма свайго народа вядуць палюбоўную змову з маскоўскімі аднадумцамі. Гэты палітычны хаўрус вядзецца адкрыта і мэтанакіравана: Расія, маўляў, без нас пражыве, а вось мы без Расіі прападзём, як швед пад Палтавай...

Ім сніцца старэйшая сястрыца па савецкіх загарадках, якая цяпер дыктуе сваёй беднай і паслухмянай суседцы бязбожныя цэны на паліва, на тавары неадкладнага ўжытку. Зманьваючы нашу рэспубліку ў эканамічную суполку, былая наша сваячка заганяе нашага знямоглага і схуднелага «зайчыка» ў надзейную пяцельку...

Нам рыхтуецца новае ярмо. Праўда, зусім нядаўна атрымалася трагічная асечка. Расійскі ценявы прэзідэнт-аднадзёнка і ачмурэлы спікер парламента разам са сваімі памагатымі чакаюць у Ляфортаве свайго суднага дня, а іх беларускія сябры і змоўшчыкі правяць трызну: і другая спроба падняць на ногі нябожчыка — Савецкі Саюз — канула ў Лету...

Пры першай спробе, у жніўні 1991 года, камуністычныя сілы адчулі пэўную нерашучасць і страх перад правасуддзем, а пры другой спробе — сляпую прагу да рэваншу любой цаной. Нават цаной крыві... Гэта ўжо трывожна і небяспечна пры сённяшнім палітычным і сацыяльным кавардаку, калі:

расце спекуляцыя і хабарніцтва,

лютуе рабунак і бандытызм,

жыццё і смерць выраўняліся ў цане,

больш плачуць на хаўтурах, чым смяюцца пры народзінах,

старэе і выраджаецца беларуская нацыя...

Дык якія ж, скажыце, дэмакратычныя заваёвы мы будзем занатоўваць у новую дэмакратычную Канстытуцыю? І хто будзе занатоўваць? Можа, тыя, хто гатовы прадаць інтарэсы свайго народа за тыя ж сярэбранікі?

Абмяркоўваць праект новай Канстытуцыі пры цяперашнім раскладзе палітычных сіл — дарэмная трата часу і народных сродкаў. У нас ёсць набалелыя пытанні, якія даўно пераспелі, не дачакаўшыся свайго вырашэння.

Нашаму народу не хапае вельмі многага. Наіўна было б думаць, што наша рэспубліка краіна Суверэнная і Незалежная. На самай справе яна ўкленчаная рабыня капрызнай Расіі. І зноў жа: не мы ў гэтым вінаваты...

Беларускаму народу выпадзе яшчэ не адно цяжкае выпрабаванне, пакуль ён здабудзе сапраўдную Свабоду і Незалежнасць. Першы крок да гэтага — датэрміновыя выбары. Няхай народ сам выбірае сваю ўладу, прымае сваю Канстытуцыю. Але ці дадуць народу такую магчымасць цяперашнія ўладатрымальнікі? Былое наменклатурнае пустазелле бурна разрастаецца і глушыць маладыя, яшчэ неакрэплыя парасткі народнай дэмакратыі. Ідзе непрымірымая бітва за беларускі трон.

Маскі скінуты, намеры і задачы вызначаны. Два франты раздзяляе, дзякуй Богу, толькі парламенцкая трыбуна, а не вулічныя барыкады. Зноў мы будзем слухаць добранастаўленыя барытоны камуністычных краснапеўцаў і блытаныя, шчырыя тэнары нявопытных народных заступнікаў з апазіцыі...

Камуністычныя змагары ў парламенце і апазіцыя ў сваіх спрэчках аднолькава спасылаецца на праўду. А праўда, як і чалавечае жыццё, бывае толькі ў адным экземпляры. І не дай нам Бог у гэтыя хісткія, ненадзейныя дні пераблытаць падробленую копію з арыгіналам!

Будзем верыць у тыя тугія, маладыя парасткі, што прабіваюць нават шэры, зляжалы асфальт на гарадскіх вуліцах і выбіваюцца да сонца. Гэта і ёсць агромністай сілы жыццёвая праўда!

**Міхась ПЯНКРАТ**

## Наш каляндар

Вядомаму дырыжору, заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі Іосіфу АБРАМІСУ споўнілася б 75. Скончыўшы Беларускую кансерваторыю па класах валторны і сімфанічнага дырыжыравання, ён прайшоў творчы шлях ад артыста аркестра да хормайстра і опернага дырыжора ДАВТа. Пад музычным кіраўніцтвам І. Абраміса былі пастаўлены спектаклі «Князь Ігар», «Баль-маскарад», «Марынка», «Атэла». З 1979 г. працаваў галоўным дырыжорам Дзяржаўнага тэатра музкамедыі Беларусі, дзе ажыццявіў пастаноўку «Несцеркі» Р. Суруса.

50 год — Аляксандру РУДКОЎСКАМУ, заслужанаму артысту Беларусі. Ураджэнец Гомельшчыны, ён скончыў Маскоўскую кансерваторыю. У 1971—86 гг. яго выбітны лірычны тэнар упрыгожваў спектаклі Беларускага ДАВТа «Яўгеній Анегін», «Барыс Гадуноў», «Севільскі цырульнік», «Фаўст» і інш. Цяпер А. Рудкоўскі працуе салістам Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча. Лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага і Міжнароднага конкурсу вакалістаў у Барселоне.

## Аб'ява

Беларуская акадэмія музыкі

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу /для тых, хто мае мінскую прапіску/:

— кафедра моў
ст. выкладчык /італьянская і французская мовы/ — 1;
— кафедра опернай падрыхтоўкі
дацэнт — 1;
— кафедра харавога дырыжыравання
ст. выкладчык — 1;
— кафедра канцэртмайстарскага майстэрства
загадчык кафедры — 1;
— кафедра фізічнага выхавання
ст. выкладчык — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы згодна Палажэнню аб конкурсах накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70.

**Калектыў часопіса «Беларусь» выказвае глыбокае спачуванне адказнаму сакратару часопіса Іосіфу Калюце ў сувязі са смерцю МАЦІ.**

Успаміны

# ЗГАДКІ СТУДЭНЦКІХ ГАДОЎ

***Гады студэнцтва... Незабыўная, светлая пара маёй маладосці. І хаця няўмольны час усё больш і больш аддаляе тыя гады, многія з'явы, падзеі зноў і зноў уваскрашае памяць. У патоку студэнцкіх будняў выдаваліся і такія моманты, якія бачацца сёння як светлыя праблiскі. Мы былі тады маладыя, няўрымслівыя, бестурботныя, перабіваліся ад стыпендыі да стыпендыі. Але жыццё студэнцкае бурліла, узнімала над звыклай будзённасцю.***

***Адхінаючы заслону часу, прыгадаю найбольш яркія старонкі, звязаныя з нашым студэнцкім жыццём.***

## НА КОЛАСАВЫМ ЮБІЛЕІ

У нас ва універсітэце на той час не было сваёй актавай залы. Масавыя мерапрыемствы праходзілі звычайна ў самай вялікай аўдыторыі на другім паверсе корпуса біяфака. Там, як памятаецца, адбываліся сустрэчы з маладымі на той час М. Танкам, Я. Брылём і іншымі беларускімі пісьменнікамі, з Канстанцінам Сіманавым, з сястрой У. Маякоўскага Людмілай.

А ў дні 70-гадовага юбілею Я. Коласа ўрачысты вечар быў наладжаны не ў нас, а ў педінстытуце, што па суседстве з БДУ. І хутчэй за ўсё таму, што была ў іх даволі прыстойная і ўмяшчальная актавая зала. Мелі шчасце трапіць на той вечар і мы — бадай што ўсе універсітэцкія студэнты-філолагі.

Добра помніцца ўрачыстая абстаноўка таго вечара і наш па-сапраўднаму святочны настрой. Як-ніяк, многія з нас упершыню пабачылі самога Якуба Коласа. Сядзеў ён у прэзідыуме ў акружэнні цэлай кагорты літаратараў — вядомых і малавядомых для нас. Многія выступалі, гаварылі цёплыя віншавальныя словы. А юбіляр сядзеў задумлівы, здавалася, безуважны да ўсяго, што гаварылася ў яго адрас.

І як жа мы былі прыемна ўражаны, калі на сцэну падняўся наш аднакурснік Ніл Гілевіч. Сказаў і ён сваё віншавальнае слова, а потым пачаў чытаць верш «Асадзі назад!». Толькі не коласаўскі, а свой, па матывах Якуба Коласа.

І гэты верш крануў юбіляра болей, чым некаторыя ранейшыя выступленні. Ён узняўся з крэсла, падышоў да Ніла, расчулена абняў і пацалаваў. А мы ад душы пляскалі ў далоні, радуючыся за нашага сябра.

## ПРАРОЧЫ ЖАРТ

У далёкім пяцьдзесят першым, калі мы лічылі за шчасце жыць у студэнцкім інтэрнаце ў раёне Нямігі, кожны дзень браць у сталовай абеды з трох страў, маркуючы, каб укласціся у чырвонец на дзень, мы, першакурснікі, і гадаць не маглі, кім станем у далейшым, якая каму зорка будзе свяціць.

Студэнт журфака Адам Мальдзіс прыкметна выдзяляўся сярод нас. Меў ён прыгожую чупрыну, насіў акуляры, быў прыстойна апрануты і наогул сур'ёзны з выгляду. Яго і тады, на першым курсе, можна было прыняць за аспіранта.

У нашай універсітэцкай бібліятэцы, якая размяшчалася на першым паверсе корпуса біяфака, Адама можна было бачыць часцей за іншых студэнтаў. І выходзіў ён адтуль заўсёды з ладным стосам кніг пад пахай.

І вось аднойчы ўбачылі мы там, у бібліятэцы, на відным месцы напісаную на аркушы паперы аб'яву такога зместу: «Хто знайшоў забыты ў чытальнай зале сёмы том Збору твораў Адама Мальдзіса, просьба перадаць у пакой N ..., што ў інтэрнаце па вуліцы Віцебскай, 9».

Многія, чытаючы гэтую аб'яву, весела смяяліся. А іншая з наіўных першакурсніц, якая яшчэ не ведала, хто такі гэты самы Адам Мальдзіс, пэўна, думала, што ён адзін з класікаў нейкай там замежнай літаратуры і творчасць яго, чаго добрага, давядзецца вывучаць.

Жарт той урэшце аказаўся прарочым. Калі цяпер сабраць усё напісанае прафесарам Адамам Мальдзісам, дырэктарам Нацыянальнага скарынаўскага цэнтра, то набярэцца не меней як сем тамоў...

## ПАКУЛЬ ІНШЫЯ ТАНЦАВАЛІ...

Як і ва ўсе часы, не толькі клопатамі пра вучобу жыло універсітэцкае студэнцтва. Умела яно і павесяліцца. Нярэдка віхурылі танцы ў вестыбюлі інтэрната па вуліцы Свярдлова, дзе жылі мы, калі вучыліся на апошніх курсах.

На адным з такіх танцавальных вечароў сустрэўся я з Вячаславам Адамчыкам. Абодва мы да танцаў не былі ахвочыя. Пакуль іншыя танцавалі ў тлумным фае, мы стаялі збоку, глядзелі на ўвесь гэты вясёлы тлум, перамаўляліся між сабой.

Вячаслаў пачаў расказваць даверліва штосьці зусім неверагоднае. Гаварыў пра тое, што збіраецца напісаць не што іншае, як раман на тэму жыцця заходнебеларускай вёскі. Падрабязнасці яго расказу я, вядома, не памятаю. Адно магу сказаць, што мой суразмоўнік разгортваў сюжэтную канву свайго будучага твора, абмалёўваў галоўных герояў. Слухаў я і не мог даць веры, бо тады, яшчэ задоўга да заканчэння універсітэта, Адамчык не паспеў надрукаваць нават апавядання. Уваходзіў ён у літаратуру няспешна, спакваля, хаця ў галаве яго ўжо тады, відаць, выспявалі тэмы, складаныя сюжэты.

І калі я чытаў ягоную «Чужую бацькаўшчыну» і радаваўся пісьменніцкай удачы, то прыпамінаў той вечар у студэнцкім інтэрнаце і шкадаваў, што не запомніў, не занатаваў змест таго расказу. Усё ж цікава было б параўнаць, як увасобілася ў жыццё яго здаўна вынашаная задума.

## ПАЧАСТУНАК У ВЯЗЫНЦЫ

Цёплым майскім днём група пяцікурснікаў выправілася на экскурсію ў Вязынку. Ініцыятарам паездкі быў малады выкладчык беларускай літаратуры Іван Якаўлевіч Навуменка. Чытаў ён нам спецкурс па творчасці Янкі Купалы, і лекцыі яго заўсёды было цікава слухаць.

Прыгарадным цягніком даехалі мы да Вязынкі. Іван Якаўлевіч павёў нас наведаць хату, дзе пабачыў свет Янка Купала і дзе ўжо дзейнічаў сціпла абсталяваны музей. На парозе сустрэла нас цёця Уладзя, якая ахвотна расказвала пра экспазіцыю, дзялілася ўспамінамі.

Урэшце экскурсія была закончана, мы шчыра падзякавалі Уладзіславе Францаўне і выправіліся ў зваротны шлях. Не даходзячы да чыгункі, Іван Якаўлевіч прыпыніўся і звярнуўся да нас:

— Зірніце, хлопцы і дзяўчаты, вунь на тую горку. Вельмі прыгожая мясціна, ці не праўда? Давайце ўзыдзем туды ды палюбуемся наваколлем. А на цягнік яшчэ паспеем.

Мы згадзіліся з прапановай і з маладым спрытам узабраліся на тую горку. Кіраўнік наш прапанаваў зрабіць кароткі прывал. Расселіся мы на зялёнай траве, а Іван Якаўлевіч расшпіліў свой партфель, дастаў адтуль пару пляшак каньяку і дзве ці тры бляшанкі кансерваў. Мы, вядома, былі здзіўлены, а Іван Якаўлевіч сказаў:

— Сёння, хлопцы і дзяўчаты, дзень адметны — 15 мая. Роўна пяцьдзесят гадоў назад быў надрукаваны першы верш Янкі Купалы «Мужык». Дык давайце ж адзначым гэтую юбілейную дату.

І пачаў разліваць у невялікія /узятыя з сабою/ чарачкі каньяк. Частаваліся па чарзе, закусвалі крабамі. Настрой, вядома, ва ўсіх быў прыўзняты. І мы неяк зусім па-іншаму глядзелі на свайго выкладчыка, старэйшага за нас на нейкіх 6-7 гадоў.

Не раз ажываў у памяці той пікнік на зялёнай горцы ў Купалавай Вязынцы, калі чытаў і перачытваў апавяданні І. Навуменкі пра яго семнаццатую вясну, пра абарванае вайной юнацтва пісьменніка.

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ,**
***супрацоўнік лагойскай раённай газеты «Родны край»***

---

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Партыйнае жыццё. «Не хачу быць у адной партыі з «сексотамі», — абурыўся на закрытым сходзе паэт і патрабаваў выключыць усіх даносчыкаў. «Збіраецеся абяскровіць партыйную арганізацыю? — спыталі паэта ў ЦК. — Лягчэй нам выключыць вас». На наступным сходзе старэйшы з «сексотаў» растлумачыў, што «стукае» яшчэ з камсамольскай пары, бо меў такое партыйнае даручэнне. Рашылі да пытання не вяртацца: нельга ж, сапраўды, пакідаць творчы саюз без кантролю. Пастанавілі таксама прыняць у партыю ўсіх нявінна асуджаных, якія ацалелі, залічыўшы ім у стаж гады ранейшага членства.

●

Падкаваны кадэбісцкі бот анекдот расцёр, як недакурак. Адышоў — ірдзее анекдот і ці не падміргвае, прыдурак. Колькі ні давілі анекдот, колькі ні саджалі, ні пужалі, ён адважна віўся — з рота ў рот — нават недзе на лесапавале. Быў штодзённы клопат у «сексотаў»: выяўляць, хто сее анекдоты. «А і Б сядзелі на трубе»... Анекдот смяяўся з КДБ.

●

Абеліск ля «Вечнага агню», боль і памяць подзвігу народнага. На вяршыні не «Айчынная вайна», а элітны ордэн «бацькі роднага».

●

Быць талентам у школе непрыстойна, не самастойных трэба школе, а спакойных. На талент не разлічаны праграмы, не веды трэба школьніку, а памяць. А, можа, з тых, што нудзяцца вучэннем, хаця б адзін — нераспазнаны геній? Якраз яго ў барацьбе з крамолай, нязручнага, і выпіхнула школа.

●

Марнатраўцу /са старажытнагрэчаскай/. Ці не з кожным сустрэчным ты прыпынішся гатоў, нешта там распіваеш, прападаеш на сходах. Жывеш, быццам наперадзе вечнасць у нас, а не трыццаць імклівых гадоў, шэсць пяцігодак.

●

Пакончыць са злачыннасцю немагчыма, недасягальная задача: кожнаму чыну — сукіну сыну сняцца машыны і дачы, нават сыну сукінага сына — дача з машынай. Усім, каго ні прызначыш, — машыны і дачы, машыны і дачы. Разлazваўся «савок» на мундзіры: «Няма на вас рэкецiраў». Дзівак, даўно ўжо ў міру жывуць рэкеціры.

●

На грашах партрэты Леніна ў Расіі адмяняюцца. Мы, выходзіць, без спазнення ўявілі выявы зайцаў. Бойцеся данайцаў без выяваў зайцаў.

●

Гэта Красін прыдумаў муміфікаваць Леніна, каб тады ўваскрасіць яго пры камунізме. О святая наіўнасць ленінскага пакалення і бліскучая перамога утапізму!




*Малюнак Л. РАЗЛАДАВА*


# ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

Галоўны рэдактар **Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-19-85, мастацкага афармлення — 33-24-62; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 4.11.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12